


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 24 (3292) Год LXIV | Беласток, 16 чэрвеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# VII Пікнік з беларусам

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**У час VII Пікніка з беларусам, які 7 чэрвеня наладзіла ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы Аб'яднанне «Наша школа», што дзейнічае пры белліцэі, займальна выступілі дашкольнікі, вучні пачатковых школ, калектыў «Метро» з Гайнаўкі і перш за ўсё белліцэісты і белгімназісты. Удзельнікаў мерапрыемства частавалі смажанай каўбаскай, але публіка перш за ўсё мела магчымасць паслухаць беларускія песні, інструментальную беларускую музыку, паглядзець беларускія народныя танцы і прадстаўленне на беларускай мове, якія прэзентаваліся на высокім мастацкім узроўні.**

На Пікнік з беларусам прыбыла дэлегацыя Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якая з 5 па 7 чэрвеня, па запрашэнні Міністэрства нацыянальнай адукацыі РП, пабывала з візітам у Польшчы. Дзень раней у Варшаве адбылося пасяджэнне польска-беларускай кансультацыйнай камісіі па пытаннях адукацыі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. 7 чэрвеня члены кансультацыйнай камісіі з боку Беларусі наведалі Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Дэлегацыю Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь узначальвала намеснік міністра адукацыі РБ Раіса Сідарэнка, з якой прыбылі намеснік начальніка Галоўнага дэпартамента адукацыі Ірына Каржова, генеральны консул Беларусі ў Беластоку Ала Фёдарава, першы сакратар Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы і заадно дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Ілона Юрэвіч і начальнік Галоўнага ўпраўлення адукацыі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандр Сангін. Гасцям з Беларусі спадарожнічалі прадстаўнікі Кураторыі асветы ў Беластоку — віцэ-куратар Альжбета Камінская і старшы візітатар Кшыштаф Астроўскі. У мерапрыемстве ўдзельнічалі таксама самаўрадаўцы Гайнаўшчыны, у тым ліку гайнаўскі староста Андрэй Скепка, яго намесніца Іаанна Койла, старшыня Рады Гайнаўскага павета Яўген Сачко, віцэ-бургамістр Гайнаўкі Ірыней Раман Кендысь і сакратар Стараства Данута Роля. На Пікнік з беларусам прыбылі таксама дырэктары адукацыйных і культурных устаноў Гайнаўкі, сярод якіх быў Тамаш Ціханюк, дырэктар Гайнаўскага белмузея, у які мела заехаць дэлегацыя з Беларусі. Госці з Рэспублікі Беларусь наведалі яшчэ Пачатковую школу з дадатковым навучаннем беларускай мове № 3 імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.



Танцу «Слуцкія паясы» спадарожнічаў спеў калектыву «Знічка»



Намеснік міністра адукацыі Раіса Сідарэнка перадала дырэктару Ігару Лукашуку дапаможнікі



— Вельмі прыемна, што ў Польшчы мы чуем беларускую мову, а нас разумеюць, калі мы размаўляем па-беларуску. Нам вельмі прыемна, што тут, у Польшчы, ёсць людзі, якім цікавая беларуская мова, культура, традыцыі. Вялікі вам дзякуй, што памятаеце пра свае карані, пра беларускую мову, — заявіла намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Раіса Сідарэнка са сцэны. Падарыла яна белліцэю, на рукі дырэктара Ігара Лукашука, новыя беларускія напрацоўкі ў навукова-метадычным забеспячэнні навучальнага працэсу і кнігі на беларускай мове. Гайнаўскі староста Андрэй Скепка звярнуў увагу на козыры школы — навучанне ліцэістаў беларускай мове, культуры і азнаямленне іх з нашымі традыцыямі.

У Гайнаўскім белліцэі ў час пікніка працавалі тры выставы, прывезеныя з Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску. Экспазіцыі былі прысвечаны класікам беларускай і польскай літаратур — Уладзіміру Караткевічу, Максіму Багдановічу і Адаму Міцкевічу. Дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук паказаў гасцям школьны будынак з багата абсталяванымі кабінетамі і расказаў пра адукацыйны працэс з улікам на навучанне беларускай мове.

— Нам цікавая адукацыя беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, хочам распазнаць патрэбы. У рамках кансультацыйнай камісіі мы абмяркоўвалі гэтае пытанне і я лічу, што мы можам дапамагчы сваёй літаратурай. Нам цікавая літаратура ў Польшчы, — сказала намеснік міністра Раіса Сідарэнка. — Учора ў час пасяджэння польска-беларускай кансультацыйнай камісіі мы абмяркоўвалі пытанні павышэння ўзроўню адукацыі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. Акцэнты, якія мы паставілі, гэта не проста адкрыццё класаў, гэта якасць адукацыі ў Польшчы і ў Рэспубліцы Беларусь. У нас ёсць магчымасць метадычнай дапамогі. Запрашаем беларусаў замежжа на нашы алімпіяды, конкурсы, будзем таксама разглядаць іншыя магчымасці. Я спадзяюся, што кансультацыйныя сустрэчы дапамогуць палепшыць якасць навучання беларускай мове ў Польшчы і польскай мове ў Беларусі.

Былы дырэктар Гайнаўскага белліцэя, а зараз настаўнік геаграфіі Яўген Сачко прыгадаў, што прадстаўнікі Міністэрства адукацыі і вышэйшых устаноў Беларусі раней прыязджалі ў белліцэй. Школу наведвалі дыпламаты — пасол і генеральны консул Рэспублікі Беларусь аказвалі белліцэю дапамогу ў навучальных дапаможніках. Сустрэча з гасцямі ў чытальнай зале адбывалася яшчэ ў час пікніка, калі белліцэісты і белгімназісты разам са сваімі настаўнікамі і публікай захапляліся выступамі на сцэне. Пікнік быў наладжаны членамі Аб'яднання «Наша школа», якое дзейнічае пры Гайнаўскім белліцэі.

— Арганізуючы Пікнік з беларусам, мы падтрымліваем нашу беларускую мову, культуру, інтэгруем дзетак і моладзь. У час пікніка

чытайце☞10





# Мода і традыцыі

„Хутчэй, чым пагода, мяняецца мода”, — спяваў некалі Андрэй Макарэвіч. І ўсачыць, паспець за гэтай модай, адпавядаць ёй мала каму ўдаецца. А некаторым яшчэ і не хочацца. „Не трэба прагінацца пад наш зменлівы свет, няхай ён лепш прагнецца пад нас”, — гэта з таго ж Макарэвіча, больш позняга і ўжо больш глыбокага.

Прыкладам, у час майго дзяцінства ў абутку, які называецца кеды (на вёсцы яго называлі больш арганічна для беларускай мовы праз „т” — кеты) у школу хадзілі толькі дзеці з вельмі бедных, а часам асацыяльных сем'яў. Ніхто з гэтага не смяяўся, але глядзелі на такіх вучняў спачувальна. Зараз тыя ж кеды ўвайшлі настолькі ў гардэроб, што моладзь ходзіць у іх паўсюль — на дыскатэкі, у школу, на сцэну, на пляж, у розныя цэнтры. Іншы прыклад — сподняя цёплая мужчынская бялізна, якая раней называлася кальсоны, цяпер стала называцца чамусьці порткамі, якія носяць і хлопцы, і дзяўчаты, а то і значна старэйшыя людзі. Адрозненне, канешне, ёсць — у гэтых сучасных штанах ёсць кішэні і няма прорազі спераду, самі ведаеце для якіх патрэб.

Пайшла мода і на спартовыя штаны, у іх ходзяць паўсюдна паводле даўняй прыказкі, „што ў пасцелі, то ў касцеле”. На стадыён, у аўтобус, у парк, у краму, на канцэрт... А летняя пара прымусіла даставаць з хатніх гардэробаў шорты. Мой сябра ў сэнсе гэтага адзення абсалютна катэгарычны, ён лічыць, што абрэзаныя споднія мужчына прынцыпова не павінен насіць увогуле. Я не такі пурытанін, як мой сябра, на ровары і сам у шортах езджу, але неяк заўсёды мне здавалася і нават здаецца дагэтуль, што ёсць розніца паміж шортамі і спартовымі трусамі, паміж спартовымі і звычайнымі, так званымі „сямейнымі” трусамі. А зараз на вуліцах можна сустрэць процьму мужчын вось у такіх класічных „сямейніках”. Не мода, а нейкая пошлая клаўнада.

Ды што там звычайныя грамадзяне на двары. Днямі давялося пабачыць перадачу з адным вядомым расейскім блогерам. Цікавы малады чалавек, апранутых прыстойна зверху. Але тут камера папаўзла ўніз і ўсе бачылі, што блогер сядзіць у... трусах у гарошак. Глядзелася ў параўнанні з вядоўцам у звычайных портках гэта проста камічна. Дадам, што сядзелі суразмоўцы ў студыі, а не на пляжы. Цяжка зразумець сучасны дрэс-код, дакладней яго поўнае адмаўленне. Дарэчы, быў прыемна я ўражаны італьянскім тэлебачаннем. Там паранейшаму захоўваецца традыцыяналізм у падаванні навін, у тым ліку і ў адзенні вядоўцаў — забаўляльныя праграмы вядуць асобы рознага веку і апранання, навіны і сур'ёзныя передачы — не абы-хто, а вопытныя журналісты, нават пенсійнага веку ў класічным стылі. Так, прынамсі, на многіх тэлеканалах.

Раней, у час маёй маладосці, адзінкавыя людзі хадзілі ў парэзаных джынсах. Глядзелася гэта дастаткова арыгінальна. Зараз амаль 90 адсоткаў носьбітаў гэтага віду портак ходзяць у парэпаных, патрапаных і падраных джынсах. І выглядае гэта не як мода, а як сляпое малпаванне. Я то джынсаў не нашу ўжо чвэрць стагоддзя — усё з той жа прычыны — таму што іх носяць амаль усе.

Не хацелася б, каб гэтыя побытавыя нататкі разглядаліся як нараканне з „клуба тым, каму за пяцьдзясят”. Падкрэслю, што сваю думку нікому не навязваю. Проста дзялюся ўражаннямі. Заўважце, што пішу пераважна пра мужчынскую моду, бо калі жаночую станеш характарызаваць, то тут жа накінуцца з абвінавачаннямі ў сексізме. Хоць ніякага сексізму няма ў прынцыпе ў прыродзе чалавека.

Ці возьмем моду на лацінаамерыканскія танцы. Яны сапраўды прыгожыя, відовішчныя. Але чаму аддаюцца занядбанню не менш цікавыя класічныя танцы, народныя танцы!? Усе пруцца на лацінаамерыканскія, бо даніне модзе менавіта на іх. Ці татальная мода на татуіроўкі — тут ужо пытанне куды больш светагляднае. Такое ўражанне, што мець белае цела — гэта сорам, што хутка белых людзей увогуле не застанецца. Справа, канешне, таксама асабістая, але як ідзеш па вуліцах еўрапейскіх (беларускіх у тым ліку) гарадоў, адчуванне нібы ты ў Афрыцы, ці трапіў у даўнюю цывілізацыю майя. Так што галоўная тэндэнцыя сённяшняй еўрапейскай моды — гэта найперш адмова ад усяго свайго, традыцыйнага, кансерватыўнага.

Але будзе новы дзень — будзе і новая альбо старая мода.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Закон Бенфарда

На жаль, нуль нават у свеце лікаў роўны нулю. Я прапускаю тут міфалагічны «мільён», на які палююць аматары азартных гульняў. Мільён — гэта адзін, за якім устанаўліваецца серыя з шасці шторазь больш набухлых нулёў, якія даводзяць людзей да галавакружэння, калі растуць. Асабліва, калі з'явіцца апошні, шосты нуль, які значыць аб каштоўнасці гэтага мільёна. Гэта адзіны выпадак, калі апошні нуль, такі нуль у бязмежнай масе нулёў, выклікае павагу. Ужо не кажу пра жарснасць. Але без першай «адзінкі» нават апошні, напоўнены чалавечай прагнасцю, нуль — гэта не больш чым нуль. Вось так ідзе ў матэматычнай рэчаіснасці, так і ў рэальнасці. Я спыняюся на адной аналогіі. Як вядома, больш за ўсё нулёў у палітыцы. Нярэдка апошні з апошніх нулёў мае што найбольш сказаць. Але што ён значыць без папярэдняй «адзінкі».

Матэматыку або пра матэматыку можна чытаць з румянцам на твары, з такім жа ўзбуджэннем, калі чытаеш добрую «гісторыю злачынства» ці арыгінальны «раманс». Толькі наўрад ці хто-небудзь яе чытае, што мяне не здзівіць, таму што на працягу дзесяцігоддзяў замест вучыць дзяцей матэматычнай прыгажосці, страшаць іх пакручаным шкілетам правіл і формул. Школьная матэматыка — сапраўдны дансмакабр — танец смерці са шкілетам. Вось так матэматыка губляецца ў народзе. Або прападае з народам. Таму што, калі найпростае арыфметычнае дзеянне 2 + 2 выклікае ў яго праблему, вынікі апошніх выбараў у Еўрапейскі парламент не дзівуюць. Эх, дзе ты, Матэматыка? Дзе твая прыгажосць, прывабнасць і мудрасць, якія пацвердзяць сапраўдны вынік — 4? Заўсёды чатыры! Аднак паспрабуем Яе знайсці. З гэтай мэтай давайце пойдзем да матэматычных асноў — да дзесяці асноўных лічбаў, г.зн. ад 0 да 9. Падыходзіць да гэтага закон Бенфарда. І таму мэтазгодна, што правілы, якія рэгулююць лічбы, ператвараюцца ў несправядлівую рэальнасць. Успомнім палітыку, якая фармальна пастулюе эгалітарную справядлівасць, але на практыцы гэта тычыцца толькі элітных нулёў.

Слова «несправядлівасць» з'яўляецца тут ключавым. Вось у 1938 годзе Фрэнк Бенфард апублікаваў артыкул, у якім ён паказаў, што размеркаванне частоты лічбаў (не толькі ў матэматыцы, але і ў адносінах да рэальных сітуацый) глыбока нераўнамернае. Гэта азначае, што лік 1, які стаіць у пачатку серыі, заўсёды будзе мець найбольшую колькасць выпадкаў, а апошні 9 — найменшую. Гэтая залежнасць выразна паказана ў звычайнай табліцы множання. Нагадаем яе класічную табліцу. Яна складаецца з 81 ліка, а сярод іх 18 пачынаецца з 1, напрыклад 1 x 1 = 1, і толькі тры з 9. Напрыклад, 3 x 3 = 9.

Гэты закон дзейнічае і ў чалавечым свеце. Яго структура размешчана строга ў тым жа матэматычным парадку. Акрамя ўсіх рэвалюцый, якія трэба разглядаць як выключэнні, якія на працягу кароткага часу ў чалавечым свеце скасавалі гэтую ўласцівую няроўнасць феадальнай формулы, яе падабенства з рэальнасцю лікаў накладваецца само па сабе. Першы заўсёды атрымлівае максімум, апошні найменш. Гэта даказвае закон Бенфарда, у якім гаворыцца, што «1 часцей за ўсё з'яўляецца, а 9 — найрадзей». Напрыклад, узнікненне нумара 1 у кожнай сістэме дадзеных пры ўмове, аднак, што іх вымярэнне не будзе звужана да занадта вузкага дыяпазону лікаў, заўсёды большае за 30%; 2 — каля 18%. І далей, усё яшчэ ніжэй да апошняга 9, што складае менш за 5%. Гэта таксама тычыцца табліцы множання. Цікава, што закон Бенфарда працуе для кожнай інфармацыі. Зрабіце першыя даныя па даўжыні рэк у Еўропе ці па ўсім свеце, сярэднюю вагу розных відаў жывёл, гадавы аб'ём вытворчасці бульбы ў Беларусі і суседніх краінах, альбо колькасць мабільных тэлефонаў у афрыканскіх краінах — гэта заўсёды будзе адпавядаць формуле Бенфарда. Дзіўна, але гэтыя значэнні толькі ў зваротна прапарцыйным маштабе супадаюць з эканамічнымі вымярэннямі ўсіх грамадстваў. Чым больш адзінка пхнецца да пярэдняй часткі шэрагу, тым больш яна захоплівае пад сябе. Выключэннем з гэтага правіла з'яўляюцца самыя багатыя з самых багатых. Мультымільярдары. Яны, а гэта толькі некалькі соцень чалавек ва ўсім свеце, займаюць больш за 80% сусветнага капіталу. Але тое, што застаецца астатнім, тыя нэндзныя 20% раздзіраюць апошнія — першыя бяруць больш за ўсіх, апошнія — найменш. Эх, дзе ў гэтым матэматыка? Толькі разлік.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За чорным хлебам (2)

Тры тыдні назад у гэтым месцы падзяліўся я з чытачамі першымі ўражаннямі ад сямейных вандровак на Сілезію. Аказваецца, што і сямейнікі іншых нашых рэдакцыйных сяброў і супрацоўнікаў таксама раскінуты па Верхняй і Ніжняй Сілезіі. З маёй вёскі не толькі прадстаўнікі майго роду сваё жыццё звязалі з вернутымі пасля вайны землямі. Некаторыя па сённяшні дзень вяртаюцца адтуль у час летняга адпачынку ў свае родныя гнёзды. Разам з імі з'язджаюць да нас іхнія дзеці і ўнукі.

Зараз крыху іншых маіх рэфлексій з Сілезіі накont убачанага і пачутага. Пасля вяртання папоўніў я свае сямейныя веды аб яшчэ адным татавым браце — Валодзі. Ён таксама паехаў за чорным хлебам на шахту, дзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай з Мілейчыч. Пералом нагі ў час працы і туга па родным староннi прывялі яго назад у Гайнаўку, а потым у Беласток.

Пабыўшы ў Забжы ў адной з былых шахтаў на трохгадзіннай экскурсіі, пасля выезду наверх перада мною з'явілася шмат пытанняў і ўяўленняў наконт самаадчування трапіўшых туды на працу беларусаў з Беласточчыны, а можа шырэй моладзі з сялянскай працоўна-прыроднай прасторы. Пабыўка ў вузкіх калідорах, дзе паўсюдна пануе чорны роспіс, нават зараз выклікае абсалютна клаўстрафобныя адчуванні. Уявіць сябе цяжкасці працы шахцёраў у высокай тэмпературы, пры дапамозе толькі кіркі і шуфеля, пры рызыцы катастроф абвалу і выбуху газу для нашых землякоў мусіла быць проста шокам. Узгадаваным у сялянска-прыроднай цывілізацыі прыйшлося перасяліцца ў прамыслова-тэхнічную рэальнасць. Узгадаваным і працуючым свабодна ў полі і на сенажаці пад сонечным небам пры спеве птушак прыйшлося перанесціся дзень у дзень пад зямлю і задымленае неба. Выйшаўшы з вясковага абраднага каляндарнага цыкла, сутыкнуліся яны не толькі з польскай культурай, але ў гэтым выпадку са шлёнска-нямецкім сямейна-працоўным ладам жыцця. Сустрэлі яны людзей, для якіх самай вялікай гістарычнай траўмай быў уваход савецкай арміі зімой 1945 года, які прынёс ім здзекі, гвалтаванні, расстрэлы і дэпартацыю мясцовых жыхароў у глыб Савецкага Саюза. Іх месца занялі перш за ўсё транспарты польскіх рэпатрыянтаў з Львоўшчыны — інтэлігенцыі і бедных галіцыйскіх сялян. З'явіліся там таксама і перасяленцы з Беларусі. Так склалася ў выпадку і мужа маёй дваюраднай сястры. Бацька яго — сірата з Валіні, маці — з-пад Баранавіч, бярэ за жонку дзяўчыну, бацька якой беларус з Беласточчыны, а маці з вёскі ў Кялецкім ваяводстве. Мясцовай крыві няма ані чуць-чуць. А сям'я мужа другой маёй сястры прыехала з Альштынскага ваяводства.

Сілезцаў і крэсавякаў раз'ядноўвала ўсё, але спалучала іх адна душэўная справа — яны проста не цярпелі саветаў і рускіх. Нашым праваслаўным і русафільскім дзяўчатам і хлопцам быў гэта неўяўляльны эмацыянальны кашмар. Многія гуртаваліся вакол царквы ў Саснoўцы, якая ў выпадку маёй сям'і была важным арыенцірам адчування сваёй беларускасці. Што тады трымала іх на гэтай прамысловай Сілезіі? Вытрывалі, бо з дзяцінства былі прывыклыя да цяжкай працы. Тут ад яе атрымлівалі рэальную зарплату. Проста не мелі куды і да чаго вяртацца. Па-першае, перанаселеныя вёскі, малыя гаспадаркі не давалі месца на самастойнасць. Па-другое, закончылася санацыйная, антыбеларуская палітычная, асветная і эканамічная дыскрымінацыя. Шлях у людзі здаваўся адкрытым. Па-трэцяе, не хапала там людзей да працы. Але асабліва шахцёрам ніхто не хацеў працаваць. Таму ў лютым 1951 года тадышні міністр нацыянальнай абароны маршал Польшчы Канстанцін Ракасоўскі падпісаў указ аб стварэнні часовай службы (Bataliony Zastępcze Służby Wojskowej), званай потым Вайсковым корпусам шахцёрскім (Wojskowy Korpus Górniczy). Маладым рэкрутам у вайсковы білет ставілі штамп «ПЗ» — пад зямлю. Іх нявольная ў сутнасці «служба» першапачаткова доўжылася 24 месяцы, а потым расцягнулася да 36 месяцаў. Жахі бясплатнай і катаржнай працы спазнала звыш 120 тысяч жаўнераў-шахцёраў. Колькі сярод іх было нашых беларускіх хлопцаў напэўна могуць вызначыць архіўныя даследаванні. Думаю, што варта адшукаць тых, каму чорны хлеб і слёзы скралі маладосць.

**Яўген ВАПА**

# Голас Мішы з Пушчы




**Пушчанскі Яўген з Доўгага Броду: «„Поўня” — гэта поўня жыцця нашага, бачнага і нябачнага. Гэта поўня майстэрства, якое выспявала гадамі. Гэта была цяжкая праца аўтара над тым, каб свае думкі, свой жыццёвы досвед, досвед стагоддзяў сваіх бабуль, дзядуляў адлюстраваць у літаратурнай форме».**

Пушчанскаму Мішу з Войнаўкі амаль шэсцьдзясят гадоў. Ён жа Міхал, і Міхаіл у іншым месцы. А тут ён у сябе — Міша. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Гайнаўцы на Падляшшы. Дзяцінства правёў у вёсцы Войнаўка Дубіцкай гміны. Скончыў беларускі ліцэй у Гайнаўцы (1978), працаваў настаўнікам і каменячосам, журналістам беластоцкай рэдакцыі Радыё Рацыя. Дэбютаваў у «Ніве» (1979) вершамі. Піша па-беларуску і па-польску. Аўтар кніг прозы «Фірма» (Беласток, 2000), «Мясцовая гравітацыя» (Беласток, 2004), «Белы конь» (Беласток, 2006), «Вуліца Добрай Надзеі» (Менск, 2010), «Wagon drugiej klasy» (Беласток, 2010), «Krzyżyk» (Беласток, 2015), „Поўня” (Беласток, 2018). Міхал Андрасюк з'яўляецца лаўрэатам „Залатога апострафа” — літаратурнай прэміі часопіса «Дзеяслоў» за сваю прозу, апублікаваную на яго старонках у 2009 годзе. Атрымаў Літаратурную прэмію прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага ў 2011 годзе за кнігу „Белы конь” — „за магічную прыпавесць пра Мястэчка, дзякуючы якой жыхарам Падляшша вяртаецца імя і памяць”, разам з Янам з Ярылаўкі Гарадоцкай гміны. Чорная Міра з Баравых (як назваў яе Жорж з Белавежы, што з Патойбаковіі сочыць за сваімі зубранятамі), што цяпер ніжа «Вершы з-пад лесу») таксама дачакалася, як ён скажа пра чалавека і дрэва, якое расце разам з намі ў нашым адрэзку часу, пад поўнай Поўняй. Да якога мы вярталіся і вяртаемся, якое дало схоў і ратунак, якое абагрэла і даравала. У яго аповедах перапляетаецца міфічнае з жыццёвым, праўдзівае з няпраўдзівым. „Гэта праўда, я там быў!” — скажа дзядзька Валодзя з Войнаўкі, якога дачка выйшла замуж у пушчанскую Бабігару, за Кічкайлу. «А я вас таксама бачу то тут, то там, і ведаю, скуль вы е і што робіце!» — дадасць пасля сустрэчы з Мішам у Падляшскай ксёнжніцы. Такія ўсе рэальныя, але ж таямнічыя персоны — тут і там, але ж усюды ў сябе, але асобна, па-свойму, ды ўвесь час звязаныя з тым міфічным месцам нейкай ніткай ці то жывой пупавінай, пульсуючай крывёй і мацярынскімі — ствалавымі клеткамі.

Яўген: „Урэшце дачакаліся. Пасля доўгага зацішша перад чытачамі неверагодна таямнічая «Поўня» Міхала Андрасюка. Літаратура бязмежная ў сваёй лёсавызначальнасці часу і прасторы. Сваімі вобразамі і словамі выспявала стагоддзямі ў магічным свеце Белавежскай пушчы і ўзляцела звыш межаў жыцця і смерці. Чытаўшы гэтую кнігу мы можам на хвіліну адчуваць сябе ў некалькіх вымярэннях, але без патрэбы ставіць лішнія пытанні наконт свету бачанага і небачанага. «Поўня» празаічнага таленту Міхала Андрасюка раскрываецца перад намі”.

Хто мае пра гэта сказаць, як не ён? Пра месца і людзей? Міша: «Агульнае — месца, у якім усе гэтыя літаратурныя гісторыі адбываюцца. Гэта Падляшша. Беларускае Падляшша. Гайнаўшчына. Навакольле Белавежскай пушчы. Тое месца, дзе я нарадзіўся і дзе пражыў амаль усё сваё жыццё. І вось гэтае месца і гэтыя людзі — героі ўсіх маіх кніжак. Па-першае, таму што, калі не я, дык хто? Калі мне дадзена такая магчымасць, магчымасць пісаць, быць пісьменнікам, то я павінен гэтую магчымасць скарыстаць. Скарыстаць, каб захаваць, каб перадаць неяк, праз кнігу, праз літаратуру, гэты наш свет. Калі не я, то хто гэта зробіць? Другое, мне вельмі зручна рухацца ў гэтым свеце, які я добра ведаю, але не ведаю яго да канца. І гэта таксама добра. Бо ўсё яшчэ застаецца прычына для чарговай кнігі. Гэты наш прыпушчанскі, беларускі, падляшскі, польска-беларускі таксама, свет. Я гартаю, гартаю, адкрываю чарговыя пласты, і стараюся суб'ектыўна яго запісаць. Запісаць і перадаць свету, такім чынам, што гэтыя мае запісы ідуць у свет». Поўная поўня, таямнічая, якая назірае за намі адным бокам, і вечная. Міша кажа: „З поўняй звязана ў нас шмат абрадаў, шмат забабонаў. Поўня страшная, поўня цікавая, поўня таямнічая, поўня шматзначная. І мне хацелася, каб кніга была менавіта такая — шматзначная”.



На «Літаратурнай серадзе» ў ваяводскай Падляшскай ксёнжніцы 5 чэрвеня, якую вяла Юстына Саўчук, сустрэліся Мішавы суседзі — пушчанскія жыхары, што даўно памянялі лыкавыя сандалі на лакіраваныя туфлі, калегі па слове запісаным і вымаўленым, і чытачы, для якіх не прыйсці на такое мерапрыемства ў былую бібліятэку імя Ежы Гедройца было б заўсёды вялікай стратай. І чуліся шэпты: «А скуль ён, гэты пісьменнік? Няўжо жыве ў Польшчы? А так без акцэнту прыгожа кажа па-польску». Некаторыя ведалі, што атрымаў ён прэстыжную польскую літаратурную ўзнагароду, за перакладзеную на польскую мову кнігу (у рэгламенце ўзнагароды няма прынцыпу, што мае гэта быць кніга на польскай мове). Тут Юстына Саўчук прыгадала словы Сакрата Яновіча, аднаго са старэйшых «белавежцаў», з пакалення яе бацькоў, што ў Польшчы існуюць дзве літаратуры — польская і беларуская. На сустрэчы быў прысутны наш першы жывы паэт Віктар Швед, які з захапленнем прачытаў не толькі «Поўню» Міхася Андрасюка, але сочыць за яго творчасцю ад самога дэбюту Мішы на Літстаронцы ў «Ніве» як паэта, але і глядзіць на кнігу як выдавец і рэдактар. А ён знайшоў толькі дзве апіскі-«літароўкі» ў друку. А на некалькіх лістах пісаў нататкі, каб расказаць маладзейшаму калегу, які ён быў інспіруючым і для яго, і з якой растучай радасцю чытаў ён гэтую таямнічую і выдатную кнігу. І як узмацняла яна дух паэта, які першы сказаў у «Ніве», два гады да таго, як нарадзіўся Міхась: „Я — беларус”.

— Вялікае значэнне для развіцця беларускай літаратуры на Падляшшы мела ўзнікненне ў палове пяцідзясятых гадоў у Беластоку тыднёвіка беларусаў «Ніва» (выдаўца кнігі «Поўня»), і калі многія пакаленні маглі друкаваць свае напрацоўкі, запісваныя ў стол, на яе старонках, — адзначыў герой сустрэчы. — Былі там аўтары ва ўзросце і 14-15 гадоў, і трыццаці, і пяцідзесяці, і старэйшыя. У мяне пасля дэбюту наступіла паўза, але пераканаў мяне Сакрат Яновіч, які выслаў мне, злёнаму аўтару, ліст і сцвярджаў, што я павінен пісаць далей. Сакрат быў нашым гуру, аўтарытэтам, вакол якога збіраліся маладыя людзі... А ўзнагарода імя Веслава Казанэцкага паказала, што беларускія аўтары сталі больш бачныя і чутныя. Напісаў я дзве кнігі па-польску — „Wagon drugiej klasy” і „Krzyżyk”, але яны мінулі без большага рэха. Цяпер за пераклад «Поўні» ўзяўся Марцін Рэмбач, і тыя фрагменты, якія сёння чытае, вельмі добрыя на слых, і трапныя.

— Ці пераклад кнігі на іншую мову адзірае яе з чагосьці сутнаснага? — пыталася Юстына Саўчук, якая беларускую мову вывучала на кніжках Віктара Шведа.

— Прабаваў перакладаць і я свае тэксты, так з уласнай цікаўнасці, але мне не вельмі ўдалося — пераклад быў новым варыянтам тэксту, тое самае становіцца не тым самым.

— Усё ж вы бралі прозу. А што з паэзіяй?

— У прозу ўводжу нейкія паэтычныя кліматы.

— Уводзіце лірычныя, мяккія кліматы, ведзяце аповед з вялікай чуласцю.

— І найважнейшае — у тым, што пісьменнік павінен... што пісаць, казаць людзям, як маюць жыць. Не ацэньваючы маіх герояў, перадаць іх рэакцыі ў рукі чытача ў някранутым стане. Каб быццам бы без майго ўдзелу чытач мог ацаніць героя... Пэўнае значэнне ў маім пісанні мае той факт, што шмат гадзін працаваў я перад радыёмікрафонам. Гэта свайго роду майстэрства — чытанне літаратурнага твора, дзе маем свой тэмп, стаўленне акцэнтаў у сказе, і гэта крыху падсвядома, крыху па-за мною, пранікае гэта ў мае тэксты. Стварающа сказы, якія маюць свой рытм, якія плывуць, якія можна прачытаць уголас. Кніжка мае такую перавагу над аўдыёбукам, што можаш вярнуцца да сказа, прачытаць яго зноў і зноў.

— У вашых тэкстах распазнаем мясцовасці, асобы. Карціць заўсёды спытацца ў аўтара, якія ёсць узоры постацей. Ці нейкі герой пазнаў сябе?

— Часам гучыць назва мясцовасці, нават ёсць указальны знак: «Гайнаўка». Чытачы, якія чыталі «Вагон другога класа» казалі, што чытаючы кнігу, можна вадзіць экскурсіі па мястэчку. А калі гаворка пра герояў... Я прымяніў такі спосаб з імёнамі маіх продкаў — дзядоў, прадзедаў, прабабуль. Гэта аўтэнтычныя імёны. Але гэта не значыць, што тое, што з героямі адбываецца, было ўдзелам маіх продкаў. Кніга вельмі часта выходзіць па-за рамкі рэальнага свету. А калі я гавару з маім дзедам, які памёр трынаццаць гадоў да майго нараджэння, калі ходзім з ім яго сцежкамі, сядзім побач на лаве, прыпальваем папяросу, размаўляем — я мусіў прывесці тыя сапраўдныя імёны. Каб сябе самога ўмацаваць у перакананні, што гэта рэальнае, што так было. Што родныя жанчыны з чыстага льну ткуць блакіт неба, каб таго чыстага неба хапіла для ўсіх. Жанчыны, якія молада адышлі з нашага свету. Пакуль перадам гэтую гісторыю чытачу, мушу спачатку паверыць у яе сам! У пэўны момант выводжу на спартыўную пляцоўку хлопцаў, якія ніколі не сталі мужчынамі, бо раней пайшлі ў Патойбаковію. У далёкай сваёй маладосці я працаваў крыху настаўнікам, між іншым, фізкультуры. Гуляў я з тымі хлопцамі ў мяч. Па пару дзясяткаў гадоў я заўважыў, што з гэтых маіх хлопцаў, анёлаў ужо, удалося б скласці футбольную каманду. Склаў я тую каманду, і вывеў на пляцоўку, і гулялі мы пад Поўняй — але ў адны вароты, замглёныя туманам з-пад Пушчы, — з Вечнасцю...

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Будуць новыя аўтастаянкі ў жылых раёнах

Жыхарам Беластока будзе лягчэй знайсці месца, каб паставіць свой аўтамабіль на пасялковых аўтастаянках у Старасельцах ды на Высокім Стачку і на Новым Месце. Першыя аўтастаянкі на 52 камфортныя і бяспечныя месцы неўзабаве пабудуюць пры вуліцах Дворскай, Транспартовай і Заходняй. Тут будуць месцы таксама і для аўтамабіляў асоб з фізічнай недастатковасцю.

Аўтастаянку на дзесяць месцаў пабудуюць пры вуліцы Кляпацкай. 23 месцы магістрат запланаваў пабудаваць уздоўж вуліцы Партугальскай. Тут і тут будзе па адным месцы для самаходаў асоб з абмежаваннямі.

Горад плануе яшчэ пабудаваць аўтастаянку на 43 месцы таксама пры вуліцы Балгарскай. Тут будзе, між іншым, адно месца для аўтобуса. **(яц)**

## У нараўчанскіх пенсіянераў

Пенсіянерская арганізацыя ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета налічвае 150 членаў. Працай Раённага аддзела Польскага саюза пенсіянераў (РА ПСП) у Нараўцы кіруе старшыня Ядвіга Карпюк. Ёй дапамагаюць члены праўлення. Члены ПСП ахвотна ўдзельнічаюць, між іншым, у айчынных і замежных экскурсіях, танцавальных вечарынах і таварыскіх сустрэчах.

5 чэрвеня гэтага года пенсіянеры сустрэліся ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы традыцыйна ўжо з нагоды Дня інваліда. Варта дадаць, што сярод тутэйшых пенсіянераў шмат інвалідаў.



Найперш была цікавая мастацкая частка ў выкананні вучняў мясцовай школы (школьная група на здымку) пад кірункам настаўніцы Лідзіі Скепка. Затым кіраўнік нараўчанскага пастарунка паліцыі расказаў пра тое, якая зараз небяспека пагражае перш-наперш старэйшым жыхарам вёсак з боку ўсякай масці ашуканцаў. Прасіў тэлефанаваць і паведамляць паліцыю, падаў нумар свайго мабільнага тэлефона і нумар выратавальных службаў 112.

Старшыня РА ПСП запрасіла ўсіх прысутных за стол ва ўтульным зале Гміннага асяродка культуры на салодкі пачастунак — каву, гарбату і ахаладжальныя газіраваныя напіткі. Яна паінфармавала пра планаваныя ўжо гэтым летам культурна-забаўляльныя мерапрыемствы ды паездкі па краязнаўчыя экскурсіі, пра грашовую дапамогу гмінных улад для РА ПСП. У зале былі яшчэ іншыя атракцыёны. Прыемна і цікава было сустрэцца ў крузе менш і больш знаёмых асоб з розных сёл, бо нагоды пабачыцца не такія частыя, як бы хацелася.

Падчас гэтай сустрэчы найлепшыя зычанні здароўя і поспехаў у далейшым жыцці перадалі, між іншым, Ян Хомчук — сакратар Нараўчаскай гміны, Альжбета Патонец — кіраўнічка Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі, Галена-Марыёля Рэент — дырэктарка Гміннага асяродка культуры.

Тэкст і фота
**Янкі Целушэцкага**

# Сустрэчы і расстанні



У чацвер, 6 чэрвеня праваслаўныя адзначалі Ушэсце. Мяне ў гэты дзень наведаў Валодзя Саевіч, калега з Палічнай. З Валодзем працавалі мы разам на чаромхаўскай станцыі, ён — кандуктарам, а я — кладаўшчыком станцыйных складоў. Разам падарожнічалі за мяжу ў Брэст. Гэта былі цудоўныя дні. Зараз сустракаемся пасля амаль дваццацігадовага расстання.

— Дык гавары як пражываеш. Чым займаешся? — вітаючыся, пытаю прыяцеля.

— Чатыры гады ўжо на пенсіі. У Беластоку кватэру сваю маю, у блёку. Матуля памерла, не дачакаўшы дзевяностагадовага ўзросту. У Палічну прыязджаю летам... Ведаеш, Валодзя, Палічна памірае, — з сумам гаворыць прыяцель. — Дамы пустуюць. Варшавякі пасяляюцца. У вёсцы крамы няма. Пенсіянераў абʼязныя купцы забяспечваюць. Пад дом падʼедуць, што трэба прывязуць. А як з тваім здароўем? — пытае сябра.

— Ногі хваравітыя. Нядаўна з рэабілітацыі вярнуўся. Крышачку паправілася...

На хуткую руку рыхтую пачастунак. Гарбата, пячэнне, тушоная капуста з каўбаскай, вэнджаная грудзінка... Сядзім за сталом і ўспамінаем апошняе падарожжа ў Брэст...

Гэта было, як не памыляюся, у 2000 годзе, пад канец лістапада. А мая памяць, навочны сведка гэтай падзеі, зафіксавала яе так:

Прамы цягнік Беласток — Брэст заўжды быў перапоўнены пасажырамі. Ездзілі чарамшане ды жыхары Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. Гэтых мы называлі «пшэмытнікамі». Цягнік у Брэст адпраўляўся з Чаромхі ў 12:05. Мы зайшлі на перон дваццаць мінут да адпраўлення цягніка. У вагоне было няшмат пасажыраў. А гэта таму, што чаромхаўскія пагранічнікі і мытнікі ўвялі новы спосаб праверкі цягніка пасля вяртання з Брэста. Раней не выпускалі пасажыраў з цягніка, пакуль не праверылі апошняга. Затым пагранічнікі з мытнікамі выходзілі з вагона і тады была магчымасць выцягваць кантрабанду са схованак. Зараз такога не было. Пасля пашпартна-мытнага кантролю загадвалі выходзіць на перон. Схаваная ў тайніках кантрабанда станавілася трафеем функцыянераў. Выцягвалі яны спіртное і папяросы з найбольш патаемных схованак. Таму і колькасць пасажыраў намнога скарацілася ў «пшэмытніку». Заходзім у вагон, вітаемся са знаёмым вайскоўцам пагранічнай стражы. Штамп у пашпарце і... адпраўляемся ў Высока-Літоўск. На разʼездзе ў Голі праходзім пашпартна-мытны кантроль на беларускім баку. Мытны кантроль для палякаў абмяжоўваўся да вуснай дэкларацыі наконт валюты. Я прадʼявіў пятнаццаць долараў на вываз. Кіраўнік правярае білеты. «Колькі пасажыраў едзе», — цікаўлюся. «Крыху больш за сорак, — адказвае. — На зваротным праездзе пэўна будзе пад восемдзесят, — затым прыбаўляе: — Сёння ў Чаромсе начальства з Беластока было. Людзей мала ездзіць, казалі. Як не прыбавіцца пасажыраў, дык брэсцкі цягнік адменяць».

У нашым вагоне адны «рускія» з худзенькімі сумкамі. У двух апошніх вагонах сустракаем знаёмых чаромхаўскіх ды гайнаўскіх чаўнакоў, якія гандлююць грыбамі ды семечкамі. Выходзім у Высокім. За намі выходзіць некалькі чалавек. Маем шмат часу, каб забяспечыцца спіртным і папяросамі.

Цягнік з Высокага ў Брэст адпраўляецца згодна раскладу язды ў 14:35 мясцовага часу. Пасажыраў на пальцах можна палічыць. А гэта таму, што мясцовым не дазвалялася рабіць пасадку на міжнародны цягнік. Брэст прывітаў нас шэрай маўклівасцю. На пероне чакала некалькі дзясятак чалавек, каб адправіцца ў Польшчу за «зялёнымі» і таварамі. Валодзя падаўся ў прыгарадныя крамы Брэста за пакупкай, а я застаўся вартаваць пры сумках. Нечакана прыкмячаю на пероне двух мужчын. Не, не памыляюся. Гэта Сярожа Семянюк і Аляксей Дзік, даўнейшыя высокаўскія агенты, з якімі я ў Чаромсе працаваў. І яны мяне прыкмецілі. Зайшлі ў вагон.

— Што ж ты, Якаўлевіч, людзей не пазнаеш? — вітаючыся кідаю ў бок прыяцеля.

— Як жа не пазнаю, — з усмешкай адказвае Аляксей. — Цябе і ў пекле пазнаў бы. А ты добра трымаешся. Нічуць не змяніўся.

— А што ў цябе чуваць. Пэўна на пенсіі?

— Калі матушка-чыгунка адмовілася, дык трэба нечым заняцца, — гаворыць прыяцель.

— Ды калі да вас за мёдам можна зайсці? — уключаецца ў размову Семянюк.

— Ты што, Аляксей, пчалаводствам займаешся?

— Трэба падзарабляць. Ці ж за трыццаць тысяч рублёў можна за месяц пражыць? Гэта ж усяго дваццаць восем долараў будзе. А колькі ты ў месяц палучаеш? — цікавіцца калега.

Калі я назваў сумы і пералічылі на валюту, дык выявілася, што мая пенсія хоць і невялікай лічыцца, але намнога большая ад беларускай.

Сядзім ды ўспамінаем свае добрыя дні, калі сустракаліся ў Чаромсе на рабоце. Асабліва запамяталіся супольныя застоллі на Каляды і Вялікдзень.

— Гэта былі цудоўныя дні, — уздыхае Якаўлевіч. — Работа ў кожнага была ды з палучкі на ўсё хапала.

— А скажы, Аляксей, колькі ў вас настаўнік ці лекар зарабляе?

— Намнога больш за мяне. Сорак тысяч рублёў, мо крыху больш...

— Тады ты важнейшы за іх, — з усмешкай кідаю Якаўлевічу. — З калгасным пчалаводствам шэсцьдзясят палучаеш.

Вярнуўся мой сябрук Валодзя з пакупкамі. Купіў неабходнае — папяросы і «Зуброўку» ды і лішнюю бутэльку гарэлкі прыхапіў, каб з сябрамі па кілішку пры абедзе выпіць. Але не выпала з сябрамі разам паабедаць, паколькі ў Якаўлевіча білет на прыгарадны цягнік быў і вымушаны быў з намі развітацца. А Семянюк у іншую кампанію перабраўся. Мы з Валодзем засталіся адны. У Высокім з пасадкі прыселі побач нас некалькі жанчын, якія патаемна спаглядалі ў наш бок, ці мы не сочым, куды яны хаваюць спіртное. Мы надта не перажывалі, бо везлі норму (дзве бутэлькі гарэлкі і блок цыгарэт). У Чаромху заехалі а палове шостай пасля абеду. З Валодзем развіталіся ў перонах.

— Водпуск у мяне канчаецца, — заявіў прыяцель. — Не хутка затым спаткаемся.

— Я таксама не збіраюся...

— Дык да наступнай сустрэчы! ... Саззвонімся.

І спатакаліся дзевятнаццаць гадоў пазней у Кузаве на Ушэсце.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Фіеста паветраных шароў

Ад 11 па 14 ліпеня ў Беластоку адбудзецца ІІ Фіеста паветраных шароў Беластоцкага клуба паветраплавання «Паднебныя фанаты». У паказе будзе прэзентавацца шмат атракцыёнаў для дарослых і дзетак. Арганізатары запрашаюць пілотаў са сваімі аэрастатамі, а таксама аматараў паднебных атракцыёнаў. А раней, 6 ліпеня ўвечары паказ паветраных шароў адбудзецца над Рэпчыцкім вадаёмам. Варта затым паўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве.

(ус)



# Адкапаць страчанае багацце

*Размова з **Мікалаем ГАНЬКОВЫМ**, заснавальнікам Узорнага хору „Радуга” дзіцячай харавой школы імя Віктара Роўды ў Баранавічах.*

***— Два гады таму Вы згадвалі, што бываеце часта ў Польшчы і не былі ў нас толькі на балтыйскім узбярэжжы. Што з таго часу змянілася?***

— Два гады таму мы былі з моладзевым хорам, а зараз з дзіцячым, з дзесяці да трынаццаці гадоў. Гэта школа імя Віктара Роўды. А тады былі выпускнікі і настаўнікі. І фатаграфія ў сёлетнім фестывальным буклеце няправільная, яна двухгадовай даўнасці. Мы ў міжчасе, у маі мінулага года, з'ездзілі ў Маскву на Фестываль царкоўнай музыкі, занялі там трэцяе месца. А самае галоўнае, што дваццаць гадоў назад мы занялі першае месца; гэта ўжо прайшло дваццаць гадоў. І мы зараз з дзяцьмі, пасля дваццаці гадоў, зноў прыехалі на гэты фестываль, які раздзяліўся: чыста царкоўны астаўся там. У нашым горадзе праводзім свае фестывалі. З'ездзілі і ў Польшчу, да пабрацімаў у Кшэшыцэ, у Суленцінскім павеце, туды пад германскую граніцу; прымалі іх нядаўна ў сябе. Ну, вось, мы з гэтымі дзецьмі, што прыйшлі ў хор, працавалі цэлы год, каб дасягнуць узроўню. Мікалай Бушко клікаў нас раней на конкурс, але мы яшчэ не былі гатовы. Ну, а сёння, то па крайняй меры не сорамна нам.

***— Два гады назад Вы сказалі, што падбіраеце беларускую музыку, што нешта ў Пікарда знайшлі.***

— Так, пакойны зараз Пікарда прысылаў нам вельмі многа нот, але яны для змешанага хору. Я нешта перакладваю, але дзеці пакуль гэтага не спяваюць; можа на будучы год нешта адпаведнае перакладзем. Моладзевы хор, які быў тут раней, спяваў беларускую музыку.

***— А што Вы скажаце пра падбор рэпертуару на сёлетні фестываль, з якім Вы прыехалі.***

— Сёлета мы ўзялі Жарава, маладога расійскага кампазітара. Ён напісаў „Достойно есть” — вельмі цікава, з некаторымі элементамі знаменнага распеву. Упершыню за ўсе гады я дакрануўся да знаменнага распеву; мы гэтага яшчэ ніколі не спявалі. У нас гэтага ніхто не спявае. У Расіі гэта ёсць, на Валааме, у такіх вось закрытых манастырах спяваюць. Я знаёміўся са знаменным распевам і гэта выклікала ў мяне шокавае ўражанне. І я дзецям тлумачу, што такое знаменны распеў. Гэта тады, калі ты з Богам, ты нікога і нічога не баішся — і ты знаеш, што ты ўжо пераможца. У знаменным распеве няма такіх просьбаў *Госпадзе, прабач*; там выражэнні такія: *Госпадзе, пакладзі дзверы на вусны маі, каб я не баўтаў лішняга. У мяне двое вачэй, двое вушэй, хай мае вусны і язык не кіруюцца ў нячыстыя словы.* Атрымліваецца, што там просяць у Госпада канкрэтна, каб жыць згодна запаведзям. І спявак гэта трэба ўпэўнена. Раней гэта было пад эгідай Царквы. Царква не дазваляла ніякіх прадажных інтанацый, нічога. Гэта было такое ўпэўненае спяванне, з верай у Бога. Таму мне гэта вялікае адкрыццё. Вось гэта „Да исправится молитва моя”. Людмілы Шлег, беларускай кампазітаркі, „Багародзіца Дзева радуйся”, далікатны твор. Гэта наша кампазітарка, я з ёй вучыўся ў музыкальным вучылішчы. Тут завяршаем нашу праграму проста гімнам Ісусу Хрысту „Единородный сыне”. А другі твор, гэта пашана балгарам. Калі мы сюды ехалі, у нотах, якія надрукаваў Бушко, я ўбачыў Добры Хрыстава; і вось мы ўзялі яго „Хвалите имя Господне”. І атрымліваецца, што мы спяваем пра Багародзіцу, „Хвалите имя Господне”, знаменны распеў, „Багародзіца Дзева радуйся” і гімн Ісусу Хрысту. Вось такая праграма, яна так напраўлена як павінна быць.

***— Вы сказалі „Да исправится молитва моя”. Гэта Мартынава...***

— Так, гэта чалавек, які пераклаў з крукоў нам. Гэта адзінаццаты век, гэта вельмі цікава. Я, па крайняй меры, такога ніколі не спяваў.

***— З якога часу Вы заняліся знаменным распевам?***

— Першы год. Вось пачынаем дакранацца да гэтага багацця. Бо дзе ж яго можна было пачуць? Я да царкоўнай музыкі дакрануўся, дарэчы, за граніцай, у Чэхаславакіі. Я працаваў у ансамблі песні і танца і купіў пласцінку Рахманінава „Усяночная”, якую спявалі не рускія, а якую запісалі за граніцай. І я, калі паслухаў „Усяночную” Рахманінава, я быў шакіраваны. А вучыўся ж я ў акадэміі, а там гаварылі: *Яшчэ Чайкоўскі, Рахманінаў пісалі царкоўную музыку, пераходзім да чарговай тэмы.* Вось такая была адукацыя. Мы аднымі з першых дакрануліся да царкоўнай музыкі дзякуючы нашаму айцу Аляксандру, благачыннаму. Ён паўтара года займаўся з намі па нядзелях, і дзеці вучыліся, а пасля Віктар Роўда. І мы аднымі з першых у Беларусі сталі спяваць царкоўную музыку, калі за гэта выганялі з партыі, з камсамола. І мы заспявалі ўпершыню недзе пад дзевяностыя гады.

***— Тады была ўжо галоснасць...***

— Пачыналася толькі, у гэтым цэлы сэнс. Ды яна зачалася ў Маскве, але не ў Беларусі. І тады мы заспявалі „Літургію” Чайкоўскага. Віктар Роўда сказаў: *Ну, Мікалай, ты пераклаў для дзяцей, можа я падырыжырую.* Я спытаў другую сакратар абкама: *Можа мы заспяваем?* А на гэта быў такі адказ: *Мы вас звольнім.* Такі быў час. Зараз ніхто мяне за гэта не звольніць. Таму мы, вось, дакранаемся. І разумеем, што калі стагоддзі, тысячагоддзі людзі спявалі і ўсё гэта было, то гэта акрэсленае багацце, якое мы забылі, страцілі. І яго трэба зноў адкопваць, шукаць. Спадзяюся, што мы такім чынам зможам адкопваць і беларускае, паціхонечку. Я, вось, пабачыў, Равенскага надрукавалі ў Мінску, двухтомнік — адзін том царкоўнай музыкі. А гэтых жа нот таксама нідзе не было. А цяпер надрукавалі. Паціхоньку Царква пачынае прабуджацца. І, спадзяюся, будзе добра.

***— Можа Вы яшчэ што-небудзь хочаце сказаць?..***

— Я магу да гэтага дадаць, што я схіляюся перад Мікалаем Бушко. Столькі гадоў працаваць на харавое мастацтва. Мяняліся ўлады, а царкоўны конкурс ідзе трыццаць шэсць гадоў. Я вельмі шаную людзей, якія як вол цягнуць на сабе такую выдатную справу.

***— Дзякую Вам.***

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Анна і Мікалай Ганьковы, дырыжоры баранавіцкага хору

## Актыўныя невідучыя

Актыўна працуе Павятовы гурток Польскага саюза невідучых у Гайнаўцы. Узначальвае яго Аліцыя Пліс. Дзейсна дапамагаюць старшыні яе намеснік Януш Пух і члены праўлення Дарота Крулікоўская-Лапінская (сакратар), Эва Барысавец (скарбнік) і Мікалай Янкоўскі. У гуртку з 48 чалавек ёсць члены ПСН з Гайнаўкі, Белавежы, Дабрывады, Кляшчэляў, Лешукоў, Нараўкі, Нарвы і Новага Ляўкова. Ён адзін з трынаццаці ў Падляшскім ваяводстве.

Невідучыя і слабавідучыя ладзяць сустрэчы з розных нагод, святкуюць першнаперш Дзень белай палачкі, ездзяць на краязнаўчыя экскурсіі ў цікавыя рэгіёны нашай краіны (сёлета паедуць у горы Бескіды, арганізуюць рэйды па Белавежскай пушчы, маюць паездкі ў кіно і тэатр у Беластоку, у памяшканні свайго бюро дэманструюць найбольш цікавыя для сябе кінафільмы. Усёй грамадой ходзяць на аўтарскія сустрэчы ў мясцовую гарадскую бібліятэку.

Сёлета мінулі чатыры гады ад папярэдніх выбараў. На працягу гэтага перыяду гурток пад кіраўніцтвам Аліцыі Пліс працаваў выдатна. 4 чэрвеня гэтага года адбыўся справаздачна-выбарчы сход гайнаўскага гуртка ПСН. Удзельнікі яго, між іншым, пазнаёміліся са змястоўным дакладам пра дзейнасць гуртка, склалі і абмеркавалі план далейшай працы і выбралі новае праўленне гуртка ПСН. У складзе яго нічога не памянялася. Варта дадаць, што гурток ПСН вядзе прыгожую хроніку сваёй дзейнасці і ў ёй шмат маіх допісаў (некаторыя са здымкамі), надрукаваных у „Ніве”.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Новыя прыстрэшкі ў Гайнаўцы

Улады Гайнаўкі дбаюць, каб у горадзе былі, між іншым, роўныя маставыя вуліц, такія ж тратуары (нядаўна новыя праклалі на адрэзку вуліцы 3 Мая — ад вуліцы кс. Верабея ў напрамку вуліцы Баторыя) ды прыгожыя прыстрэшкі на аўтобусных прыпынках перш-наперш гарадской камунікацыі.

Нядаўна — у пачатку чэрвеня гэтага года — пабудавалі тры прыгожыя сучасныя прыстрэшкі з тоўстага шкла на аўтобусных прыпынках галоўнай вуліцы 3 Мая (з двух з іх ад'язджаюць таксама і міжгародні аўтобусы ПКС і прыватнія). Зараз яны здалёк кідаюцца ў вочы пешаходам. Выканаўцам іх было гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг. **(яц)**

## Беларускі фэст у Ахрымах

У нядзелю, 16 чэрвеня гэтага года (Сёмуха, Дзень Святой Тройцы) у Ахрымах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбудзецца беларускі фэст, які ладзіць Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, у рамках праекта „І там жывуць людзі”. У гэтай пушчанскай вёсцы (яна на ўскраіне Белавежскай пушчы) дагэтуль такога мерапрыемства ніколі не было.

Пачатак імпрэзы а гадзіне 17-й. **(яц)**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Завяршаецца 2018/2019 школьны год

У працавітым, сяброўскім настроі завяршаем 2018/2019 школьны год. Якраз ідуць Сустрэчы «Зоркі». Гэта ўжо XXXIII выпуск мастацка-журналісцкіх майстар-класаў. Гэта заняткі для абмежаванай колькасці вучняў, якія прыехалі па рэкамендацыі рэдакцыі і настаўнікаў беларускай мовы. Але плён працы даступны для ўсіх, паколькі лепшыя артыкулы друкуем на старонках «Зоркі».

Нас цешыць, што цягам мінулага года адбыліся многія мерапрыемствы, на якія мы атрымалі запрашэнні. Цешаць нас вашы дасягненні і поспехі ў беларускіх конкурсах, вашы творчыя паездкі і экскурсіі ды творчыя прабліскі. Пра многія здарэнні вы напісалі самі. У дапісах відавочны ваш энтузіязм, але і настрой ды ўзровень навучання ў вашай школе.

Дзякуем за рэкордны ўдзел у конкурсах «Зоркі». За дзесяць месяцаў мы атрымалі больш за сем тысяч адказаў на крыжаванкі, загадкі, тэматычныя конкурсы. Дынаміку конкурсаў падбіваюць настаўнікі і бацькі, якія на час дастаўляюць вашы адказы, дапамагаюць у розных справах. Нізкі вам паклон! Дзякуючы гэтаму вучымся адказнасці і гуманнасці, ды зваротных міжасобасных сувязей. Без гэтага, як без пісьменнасці, няма культуры, развіцця ў добры бок, надзеі, што ўсё будзе добра.

Працаваць у наш час як ніколі складана. Найперш таму, што многія вучні маюць праблемы з засяроджанасцю, але таксама са свядомасцю, што для іх добрае — а што дрэннае, што важнае — а што пусцякі і падман. За многа тут сляпога бяздумнага перайманя, ашуканства, прэтэнцыёзнасці...



На шчасце, не ўсе задавальняемся пустымі гульбішчамі і сытым камфортам, якія канчаткова вядуць да самаўлюбёнасці і абмежаванасці. Каб карыстацца дасягненнямі цывілізацыі, трэба да гэтага дарасці, увесь час развівацца, слухаць, што кажуць іншыя. Тады лягчэй пабачыць і зразумець сябе, адкрыцца на іншых. З гэтага пачынаецца сяброўства і пачуццё здаровага сэнсу. Сяброўства — наш скарб. А ведаеце чаму? Дзякуючы сябрам здзяйсняюцца нашы мары!

З «Зоркай» такое здараецца, ды не аднаразова.

Рэд.

## Сябры і суседзі




Прыбеглі з дажджу радасныя, з прысмакам прыгоды. Дзеці пятага «б» класа ўсе ведаюць і чытаюць «Зорку». Цікавіла іх месца, дзе нараджаецца газета. Аказалася, што з праваслаўнай школы ў «Ніву» літаральна некалькі крокаў.

Няўжо мы суседзі?

Газета, чым далей яна ствараецца, тым больш здаецца быць важнай. Дыстанцыя — здаровая рэч. Яна патрэбная журналістам і карэспандэнтам, якія пішуць пра свет і людзей. Дапытлівы Коля Абрамюк адразу паставіў пытанне:

— А дзе друкуецца «Ніва»?

Адказ падаўся таксама знаёмы і свойскі:

— Ведаю, там дзед мой працуе, — падхапіў другі Коля, Чыквін.

Нашы цудоўныя госцейкі паслухалі расказ аб працы журналістаў і пачулі жывыя чытанні Міры Лукшы са зборніка «Жывінкі з глыбінкі». А пасля, традыцыйна ўжо, мы зрабілі памятны здымак пад шыльдай рэдакцыі.

Зорка, фота Г.К

Аўяр'ян Дзеружынскі

## Васілёк

Стаіць,
Выглядаючы з жыта,
Як зорачка-знічка
Здалёк,
Што ўпала
Іскрынкай
З блакіту,
Палеткаў краса —
Васілёк.
Калі расцвітае
Цуд гэты,
На полі
Яшчэ гарачэй,
Буяе,
Квітнеецца лета
І фарбы прыроды —
Ярчэй.
Стаіць,
Паглядае з пагорка,
Як зорка
Аднекуль здалёк,
Часцінка
Любімай старонкі,
Часцінка зямлі —
Васілёк.

## УВАГА КОНКУРС! № 24-19

**Чырвоны пеўнік у зямлі спявае.**
(падказка: расце на градках у агародзе)
(Б....)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 30 чэрвеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 20: патэльня. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Юля Дарпенская, Оля Мадзалеўская, Томак Ваўранюк, Кацпэр Каліноўскі, Вікторыя Якімюк з Нарвы. Віншуем!**

# За кожным разам мае быць найпрыгажэй!



Фота Міры ЛУКШЫ

*Размова з **Юры Астапчуком**, жывой легендай беларускай сцэны, лідарам гурта «Прымакі» і музычным інструктарам моладзі. Сустракаемся на конкурсе «Беларуская песня», дзе Юры Астапчук прыехаў з дзіцяча-маладзёвай камандай з Гарадка.*

**Зорка: — *Вашы дзеці расцвітаюць на сцэне. Як навучыць адчуваць сцэну? Што такое робіце?***

**Юрка Астапчук:** — Напэўна стараюся перадаць усё тое, чым абдарыў мяне Гасподзь. Як напісана ў Святым Пісанні, грэх закапаць талент у зямлі. Трэба развіваць талент, перадаць яго іншым. Я, як музычны інструктар, стараюся ўсё перадаць дзецям. І справа не ў тым, каб усё падаць на падносе, гатовае. Я ім даю толькі падказкі, намёкі... Напрыклад, як паводзіць сябе на сцэне. Усё апошняе яны павінны прыдумаць самі.

**Зорка: — *Гэта відаць, што яны пад уплывам «Прымакоў». Вы для іх узор, ідэал. Адначасова відаць Вашу вялікую працу...***

**Юрка Астапчук:** — Я раблю ўсё, каб мае вучні адчулі смак музыкі, каб яны бавіліся беларускай мовай, яе мелодыкай. Каб яны не баяліся, не падпускалі да сябе страху. Часта ёсць такое перакананне, што я не годны выйсці на сцэну. А чаму? Кожны з нас годны. Толькі трэба знайсці такую пазітыўную энергію, трэба знайсці матывацыю, каб панаваць на сцэне. Я ім заўсёды гавару, што кожны артыст павінен думаць, каб парадаваць публіку.

**Зорка: — *А што такое ёсць у Гарадоцкай зямлі, што ў вас так добра спяваюць?***

**Юрка Астапчук:** — Ну, стараюцца! Але нешта ёсць такое, музычнае. Я калісь зрабіў у пачатковай школе ў Гарадку агляд на музычны слых. І ведаеце, аж 80 працэнтаў дзяцей было музыкальных, здольных спяваць. Мы, інструктары, бо працуем разам з Багуславай (жонкай спадара Юркі і салісткай гурта «Прымакі — Г. К.), стараемся перадаць вучням, каб яны зжыліся са сваёй роляй, каб не стагналі, не стамляліся спевам. Каб яны мелі ад таго задавальненне, радасць. І калі выходзяць на сцэну, каб не баяліся. Часам у артыстаў ёсць стагнацыя. Ён выйдзе на сцэну і бачыш роспач у яго вачах. Ён стаіць і думае: калі гэта скончыцца! Калі я буду мог сысці са сцэны і нарэшце адпачну! Я стараюся даказаць, што гэта не так. Паглядзіце на «Прымакоў»! Столькі часу спяваем «Смэрэку» і не стамляемся. І народ яе любіць, хоча, каб увесь час спявалі «Смэрэку». Гэтага не відаць, але тут вялікая праца. Калі я спяваю можа сотні раз адну і тую ж песню, за кожным разам стараюся знайсці ў ёй нешта новае, асаблівае.

**Зорка: — За кожным разам мае быць найпрыгажэй?**

**Юрка Астапчук:** — Дакладна, дакладна. Мусіш даць з сябе ўсё! Бо калі не дасі ўсяго, тады забудзься пра папулярнасць, пра апладысменты, пра бісы. Людзі ўсё бачаць і чуюць сваім сэрцам.



Гурт «Казка» з Гарадка

*(падляшская народная легенда)*

# Пра русалку

Жанчына пайшла ў лес па грыбы. Бачыць, на дрэве вісіць вялікі кавалак бярозавай кары. Падышла яна, зазірнула ўсярэдзіну. А там голае дзіцятка спіць і раскошна пазяхае. Шкада ёй стала дзіцяці. Жанчына адвязала свой фартух, прыкрыла ім дзіця і адышла. Па дарозе яна ўсё думала: чыё гэта дзіця і як яно патрапіла ў лясную гушчэчу? Але не паспела яна адысці якіх дваццаці крокаў ад дзіцяці, як пачула кліч:

— Пачакай, кабетка!

Яна адвярнулася, бачыць — бяжыць да яе голая жанчына з распушчанымі валасамі. Гэта была русалка. Тая спужалася і хацела ўцячы, але русалка закрычала:

— Пастой, кабетка, спор табе ў рукі!

Дакранулася яна да рук жанчыны і знікла....

Калі жанчына крышку акрыяла ад спалоху, вярнулася дамоў і ўзялася за працу. Яе рукі прыставалі да кожнай працы, спраўляліся з кожнай драбніцай. З тае пары яна пачала так працаваць, што ўсе здзіўляліся, адкуль у яе бяруцца сілы.

** Легенда запісана А. Астаповічам у сяле Навасёлкі Мінскага павета. Сучасная апрацоўка ГК.*

**Паўліна ЁДЛА**
КШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім

## Вася і спешка

Вася раненька ўстаў.
У хаце яшчэ кожны спаў,
Толькі бацька, «ранняя птушка»,
Раней сарваўся з падушкі.
Хлопец хутка выбег з хаты
І пабег да свайго таты.
Бяжыць, крычыць, лямантуе,
Быццам тата не пачуе.
Бачыць бацька — Вася ж голы,
Хоць бадзёры ды дзябёлы.
— Ты вярніся сам дахаты,
Апраніся! — кажа тата. —
Папрацуем потым зранку,
Да пажыўнага сняданку.

# Польска-беларуская крыжаванка № 24-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 20-2019:**
Гумарыст, рэ, акр, рыс, лета, метад, калона, шалік. Грамацей, мір, лекар, метал, радок, тры, эстрада.

Узнагароды, **наклейкі**, выйгралі **Мая Тапалянская** з Нарвы, **Патрыцыя Нявінская** з Орлі, **Алівія Сноп** з бельскай «тройкі», **Марыя Варанчук, Наталля Ніканюк, Марыюш Красько** з Арэшкава, **Мая Куптэль, Вікторыя Кандрат** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Obrzęd | | Rzym | | Pas | | Dudek | Dziadek | Jedzenie | |
| Brat | | | | | Chyba | | | | |
| Ryż | | | | Lato | | Lala | | Język | |
| | | | Lilja | | | | | | |
| Sam | | Las / Łabądź | | | | | | | |
| Alicja | Metal | | | | | | | | |
| | | | | | Jan | | | | |

**У Любліне 450 гадоў таму, 1 ліпеня 1569 г., быў падпісаны і апячатаны дакумент, які існуючы да гэтага часу персанальны звяз паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскімператвараў у рэальны звяз. Дакумент атрымаў назву Люблінская унія. Гэта было адзінае такога роду пагадненне ў свеце.**

# Люблінская унія

Прычын, якія прывялі да уніі, было некалькі.

Нарастаючая агрэсія і ваенныя дзеянні з боку Масквы прывялі да надзвычайна цяжкага становішча ў Вялікім Княстве Літоўскім. Быў страчаны кантроль над значнай часткай Інфлянтаў, здадзены Полацк. Стала відавочна, што аднаасобна спыніць агрэсію Маскоўскай дзяржавы, а тым больш вярнуць страчаныя землі Княства не можа.

Усё большая колькасць шляхты ВКЛ хацела мець такія прывілеі, як шляхта ў Польшчы.

Кароль і вялікі князь ВКЛ Жыгімонт Аўгуст быў прыхільнікам Уніі, бо акрамя іншых прычын было яшчэ прадчуванне згасання дынастыі Ягелонаў з-за адсутнасці нашчадкаў, пасля чаго быў магчымы разрыў нават персанальнай уніі паміж Княствам і Каралеўствам.

Шляхта польская таксама мела свае прычыны да заключэння уніі. Гэта пагроза і канкурэнцыя з германскім уплывам і больш выгадная эканамічная экспансія на Усход.

Супраць уніі з Польшчай у першую чаргу быў род Радзівілаў, які фактычна кіраваў ВКЛ замест Жыгімонта Аўгуста. Радзівілы і многія іншыя магутныя роды літоўскія не хацелі паслаблення сваёй улады і ўплываў.

Але ўсё больш пагрозлівая небяспека, пачынаючы з 1558 г. з боку Масквы, прычынілася да ўзросту праўнійных настрояў у ВКЛ. З канца XV і пачатку XVI ст. Масква захапіла 120 тыс. $км^2$ усходніх зямель Вялікага Княства. У выніку трох войнаў да 1537 г. дайшло да страты Смаленска. Але найцяжэйшай была вайна з Іванам Жахлівым за Інфлянты. Па ўтраце ў 1563 г. Полацка Жыгімонт Аўгуст прыспешыў працу над уніяй. У 1564 г. Радзівіл «Рыжы» атрымаў перамогу над маскалямі на рацэ Уле, што прывяло да часовага зацішша.

Сталая дапамога польскага войска ў змаганні з Масквой спрыяла пашырэнню ўнійных настрояў. Але падчас першых перамоў, якія адбыліся10 студзеня 1569 г. да паразумення не дайшло. Палякі хацелі аб'яднання ў адну дзяржаву, ліцвіны жадалі незалежнасці ў звязе. Пералом адбыўся пасля амаль шасцітыднёвых размоў, дыспутаў і спораў. Не згаджаючыся на інкарпарацыю, ліцвіны ноччу 1 сакавіка 1569 г. на чале з Радзівілам «Рыжым» пакінулі Люблін. Перамовы закончыліся безвынікова. У адказ на гэта 5 сакавіка 1569 г. Жыгімонт Аўгуст выдае ўказ аб далучэнні Падляшша да Польшчы. 26 красавіка 1569 г. з'явіўся ўказ аб далучэнні Валыні, а 5 чэрвеня 1569 г. інкарпараванае ў склад Польшчы было Кіеўскае ваяводства. На канец 1 чэрвеня 1569 г. у склад Польшчы ўвайшло Падолле. Так абкарнанае ВКЛ не магло самастойна змагацца з Масквой. Альтэрнатывы не стала і пад ціскам сярэдняй шляхты магнаты Літвы вярнуліся ў Люблін. У складзе дэлегацыі былі староста жамойцкі Ян Хадкевіч, падканцлер літоўскі Яўстафій Валовіч, крайчы Крыштоф



Першая марка, прысвечаная Люблінскай уніі, выдадзена была поштай Сярэдняй Літвы ў 1921 годзе.



Паштовая марка з выявай абеліска ў гонар Люблінскай уніі ў Любліне

Радзівіл «Пярун», падчашы Мікалай Кішка, кашталян віцебскі Дамінік Пац. З гневам і крыўдаю дэлегаты абвінавачвалі пасаву караля і палякаў. «Менавіта крыло нам адсеклі», — казаў жмудскі староста. Але было зразумела, што агульнае паразуменне дасягнутае. У часе аўдыенцыі ў караля 27 чэрвеня Ян Хадкевіч выказаў ад імя Вялікага Княства Літоўскага згоду на унію. Стораны склалі прысягу уніі 1 ліпеня і абмяняліся актамі, выдадзенымі Сеймам каронным і Сеймам літоўскім. Актам Люблінскай уніі абвяшчалася аб'яднанне на аснове роўнасці Польшчы (Кароны) і ВКЛ (Літвы, або Княства) у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую Абодвух Народаў. Абедзве дзяржавы захоўвалі свой суверэнітэт. Суверэнітэт ВКЛ быў умацаваны Статутам Вялікага Княства Літоўскага 1588 года.

Урачыстае святкаванне 300-й гадавіны заключэння Польска-Літоўскай уніі, арганізаванае ў Кракаве ў 1869 годзе, павінна было звярнуць увагу Еўропы на сітуацыю Польшчы і Літвы пасля падзення Студзеньскага паўстання. Публічную дэманстрацыю забараніла паліцыя. Адзінай падзеяй у гонар юбілею было экспанаванне са жніўня да сярэдзіны верасня ў кракаўскіх Сукенніцах карціны Яна Матэйкі «Люблінская унія».

Ян Матэйка адлюстраваў момант пады дэпутатамі прысягі. Кароль Жыгімонт Аўгуст стаіць пасярод сходу. У паднятай руцэ ён трымае распяцце. На каленях з аголенаю шабляй стаіць гетман Мікалай «Руды» Радзівіл, лідар літоўскай алігархіі. Пагружаны ў малітву яшчэ адзін



У 1938 г. у 20-ую гадавіну здабыцця Незалежнасці Польшчы выдадзена гістарычная серыя марак, сярод якіх марка, прысвечаная Люблінскай уніі.



У 2005 годзе поштай Літвы выдадзены паштовы марачны ліст з маркай, на якой размешчаны выява Акту Люблінскай уніі і надрукавана дата 1569.

былы праціўнік уніі маршалак вялікі каронны Ян Хадкевіч (з пераплеценымі рукамі, апрануты ў бардовы халат). З рукой на Евангеллі стаіць на каленях кашталян кракаўскі Марцін Збароўскі. У другой руцэ трымае дакумент з тэкстам уніі. На самой справе ён ужо на працягу чатырох гадоў не жыў, але быў гарачым прыхільнікам уніі і гэтым тлумачыцца яго прысутнасць на карціне. Біблію трымае прымас Якуб Уханьскі. Змест клятвы чытае кракаўскі біскуп Філіп Паднеўскі, які стаіць за прымасам. Таксама на каленях Мікалай Мялецкі ў даспехах з гетманскай булавой у правай руцэ. На самой справе, годнасць гетмана вялікага кароннага атрымаў ён толькі ў 1578 годзе. Злева ад караля спаўзае з крэсла віленскі біскуп Валяр'ян Пратасевіч. З-за стану здароўя і ўзросту не прысутнічаў у Любліне. Падтрымлівае яго Ян Ласкі, які таксама не быў у Любліне, таму што ён памёр у 1560 г.

У чырвоным адзенні на крэсле сядзіць кардынал Станіслаў Хозіуш. Абапіраецца на яго крэсла познаньскі ваявода Лукаш III Гурка, якога таксама не было ў Любліне. З маршалкоўскім жэзлам — маршалак вялікі каронны Ян Фірлей.

У глыбіні паднятай рукой просіць слова прускі прынц Фрыдрых Альбрэхт Гогенцоллерн.

У правай частцы карціны стаіць сястра караля Ганна Ягелонка, яе не было ў Любліне, але размяшчэнне яе ў кароне на галаве сімвалізуе працяг дынастычнай палітыкі Ягелонаў.

Апрануты ў чорнае барадаты персанаж — Андрэй Фрыч Маджэўскі, аўтар твора «Аб направе Рэспублікі». Выступаў ён у абарону сялян, таму Матэйка намаляваў побач селяніна, які з захапленнем глядзіць на тое, што адбываецца. Постаць селяніна тут сімвалічная, не адпавядае ні гістарычным рэаліям, ні адлюстроўвае рэальныя лёсы сельскага насельніцтва ў перыяд уніі.

Герб з Арханёлам Міхаілам, гербам Русі, трымае ў руках будучы брацлаўскі кашталян князь Міхаіл Вішнявецкі (памёр у 1616 г.). Ён сімвалізуе землі, якія ў той час далучыў да Кароны кароль Жыгімонт II Аўгуст. Князь даў пачатак вялікаму і магутнаму роду Вішнявецкіх. Побач з князем стаіць брацлаўскі ваявода (1566-1571), палявы гетман літоўскі (1567-1571) князь Раман Сангушка. Матэйка, жадаючы спасылацца на пазнейшыя, сямнаццатага стагоддзя поспехі войскаў Рэспублікі, сімвалам якіх былі гусары, адзеў Сангушку ў гусарскія даспехі і крылы.

Пасля прэзентацыі ў Кракаве карціна «Люблінская унія» была паказана ў Львове, Вене, Празе і Парыжы (падчас Салона ў 1870 г.). У сталіцы Францыі Матэйка быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна. У 1877 годзе «Люблінская унія» за 18 000 рэйнскіх злотых, сабраных грамадзянамі, была набыта для польскага народа.

У цяперашні час карціна выстаўлена ў Музеі Люблінскага замка.

У Польшчы 450-годдзе Люблінскай уніі адзначаецца як значнае дзяржаўнае свята. У праграму святкавання «Ад Люблінскай уніі да Еўрасаюза» уваходзіць арганізацыя шэрагу культурных мерапрыемстваў, канцэртаў, выстаў, спектакляў і канферэнцый, арганізаваных на працягу года. Асноўныя ўрачыстасці запланаваны на перыяд 1 мая — 1 ліпеня 2019 года, ахопліваючы зоны двух важных юбілеяў: 15-годдзе ўступлення Польшчы ў Еўрапейскі Саюз (1 мая), а таксама 450-годдзе падпісання Люблінскай уніі (1 ліпеня). У арганізацыю мерапрыемстваў актыўна ўключыліся партнёрскія і сяброўскія гарады, школы і ВНУ, а таксама шэраг навуковых і культурных устаноў як айчынных, так і замежных. Запланавана больш за паўсотні мерапрыемстваў дзяржаўнага ўзроўню. Актыўна працуе і Польская пошта.

Паштовая марка з выявай абеліска ў гонар Люблінскай уніі ў Любліне была ўведзена ў абарот у 2004 г. напярэдадні ўступлення Польшчы ў Еўрапейскі Саюз пад лозунгам «Ад Люблінскай уніі да Еўрапейскага Саюза».

На пярэднім плане фрагмент помніка Люблінскай уніі. Абеліск быў пабудаваны ў 1826 годзе па ініцыятыве Станіслава Сташыца. Важным элементам помніка з'яўляецца пазалочаны барэльеф долата Паўла Малінскага, які адлюстроўвае алегорыю садружнасці двух народаў — Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага, у выглядзе дзвюх жанчын, якія трымаюць свае рукі ў сяброўскіх абдымках. На другім плане фрагмент Люблінскага замка, дзе падчас Сейма 1569 г. кароль сустракаўся з дэпутатамі. Тут адбылася цырымонія прысягі Люблінскай уніі.




Да 450-годдзя Польская пошта падрыхтавала цэлы шэраг выпускаў. Каб моладзь ведала гісторыю краіны, запланаваны Агульнапольскі моладзевы філатэлістычны конкурс. Галоўным паштовым выпускам будзе блок з выявай манументальнага палатна Яна Матэйкі.

**Лявон КАРПОВІЧ**
**Луна-Воля**



Юрка БУЙНЮК

# НАША ПАДЛЯШША (2)

***Ад аўтара:** Твор „Наша Падляшша" трэба трактаваць як сатырычны жартаўлівы твор, у якім аўтар не мае на думцы нікога ды нічога абражаць. Постаці і здарэнні ўсіх частак твора ўзяты з багатай фантазіі аўтара, а менавіта прыдуманыя, так як і сітуацыі ў творы не з'яўляюцца аўтэнтычнымі. Твор не мае за задачу нікога абражаць, а толькі развесяляць, а нават часам задумацца над зместам.*

### ТРАЛІ-ВАЛІ, ТРАЛІ-ГАЛІ

На канец заглядаем у студыю Дарыюша Гожага, дзе сёстры Валя і Галя запісваюць альбом «Погребальный звон». Студыя сучасная, пабудаваная за бацькоўскія грошы Гожага. Бацька мeў прадуктовую краму і зарабляў так вялікія грошы, што сыну пабудаваў прафесійную студыю ў Беластоку. А хто ж тут не запісваўся: уся плеяда зорак са свету хіп-хопу, дыска-пола і падляшскага фальклору. Толькі рокераў не запісваў, таму што яны не пры грашах, няпэўны інтарэс. Ну і папалі на студыю сёстры Валя і Галя, маладыя дзяўчаты, якія нейкім цудам, а мо па знаёмстве, выйгралі грант у Падляшскім ваяводстве. Валя спявае прыгожым альтам, а яе сястра Галя заводзіць моцным сапрана «Бом, боом, бом, боом, где то чутно погребальный звон, боом, бом, боом, бом...».

— Чаму мае быць пагрaбальны звон, а не вясельныя званочкі?

— Гэта старынная песня, нашы бабулі спявалі на пахаронах.

— Бабы, што гэта ёсць?! Які паграбальны звон?! Хто гэты дыск купіць?

— Усе парафіі ў Польшчы

— Вы ж маладыя дзяўчаты, красуні, а спяваеце быццам хацелі паміраць зараз. Спявайце весялей, пра каханне, пра маладосць, а не пра смерць. Зрабіце *show*, а не галосіце як старыя бабы! Мусіць быць жыццё ў песнях, бадзёрасць, смех, жарт. Як вас слухаю, жаль сраку сціскае! З чым да людзей! У мяне ж «Ас» і «Прымакі» запісваюць альбомы, а вы тут са сваім «Бо-ооо-м, бом, бом»! З хлебам, бабы! Не спявайце, быццам прыехалі на пахароны. Жыва, моцна, оппа!

Дзяўчаты на просьбу кіраўніка студыі выхілілі чарку самагонкі дык пачалі спяваць:

*Гэй, гоп, бесяда, старых баб не нада,*
*Молодых давайтэ, а вы хлопці грайтэ !*

— Во гэта я разумею! — ускрыкнуў падхмелены Дарыюш Гожы. — Такі дыск дык я прадам!

### СТАРЫ ТЭЛЕВІЗАР

У гэты цёмны вечар глыбокай восені перабіраемся ў вёску Сівы Дым, у старую вясковую хату, дзе штовечар тэлевізар глядзіць адзінокі дзед Нічыпар. Дарэчы, і дзед Нічыпар стары, і тэлевізар стары і мо таму ловіць толькі дзяржаўныя польскія тэлеканалы. Дзед Нічыпар не толькі глядзіць свой тэлевізар, ён нават з ім размаўляе :

— Во, глядзі, ізноў малако па залатоўцы літр! А ў краме тры з паловай, — здзіраюць шкуру з гаспадара. Во забаранілі гадаваць свіней дык ешце гарадскую каўбаску поўную кансервантаў! Жарыце даволі, а пасля рак пячонкі, рак страўніка. Кажаце, афрыканская чума свіней? Дык у дзікія свінні страляйце, а не ліквідуеце хатнюю жывёлу! Кажаце, эколагі праклятыя, што яны пад ахovай?! А каб вам дзікая свіння сраку раздзерла, дык таксама казалі б, што пад ахovай?! А я што, не пад ахovай?! Вам ваўкі, ласі, дзікія свінні, лісы важнейшыя за вясковую жывёлу?! Каб вам такі лось скочыў на аўтамашыну, дык мы паразмаўлялі б у тэлевізары! Рэзервацыю хочуць зрабіць з нашага Падляшша, а нас зачыніць у клеткі і паказваць турыстам! Ды мне на вас напляваць, рылы свае адкармілі як вепрукі, эколагі праклятыя!.. — і так далей, і так далей плыве адзінокі маналог дзеда Нічыпара са сваім тэлевізарам.

### КАЗЛОЎКА, ДЗЕ АДЗІН КОНЬ І АДНА КАРОЎКА

Падаемся ў сяло Казлоўка, якая раскінулася пры самой мяжы з Беларуссю. Тут пражывае вядомы беларускі пісьменнік Саша Марозаў. Саша не можа пагадзіцца, што Казлоўка знаходзіцца на тэрыторыі Польшчы. Сёння Сашу наведаў вядомы беластоцкі журналіст Марк Гарбоўскі, з якім разам распрацоўваюць пляшку «Духа пушчы».

— Скажы, Янка, чаму мая вёска апынулася на тэрыторыі Польшчы?

Да беластоцкага журналіста падыходзіць цікавы тып, відаць, пад моцным уздзеяннем самагонкі і крычыць :

— Дай мне мікррраффффон, а я табе ўсю праўду скккажжу!

— Вы нецвярозыя...

— А вы што, журналісцкі, падляшскае самагонкі не п'яце?

— Што думаеце пра Рух аўтаноміі вашага земляка Дарыюша Галіны?

— Я скажу адно, мне напляваць на ваш рух аўтаноміі Падляшша. Трэба было пра гэта падумаць у 1945 годзе, а цяпер вы ўсё прасралі. Мы ўжо старыя і нам напляваць, ці мы ў Еўрасаюзе, ці ў Лукашэнкі, ці ў санацыйнай Польшчы. Паглядзі, хлапец, тут жыве 20 асоб і ўсе маюць не менш 60 гадоў. Бачыш тыя пустыя хаты? Яны ўсе памятаюць час, калі і тут жылі ў адной хаце па некалькі сем'яў, а ў адной сям'і прынамсі васьмёра дзяцей. Ты разумееш гэта?! Былі статкі кароў, авечак, табуны коней, а цяпер усе лугі лесам зараслі. А нашы ўнукі працуюць на багацце немцаў, французаў, англічан, бельгійцаў таму, што тут, на Падляшшы, няма працы...

— Як ты хочаш адбудаваць аўтаномію Падляшша, калі мы неўзабаве пойдзем туды, — і Мішка Паравозаў паказаў на вясковыя могілкі.

### КАЙФ НА ВАВІЛОНСКАЙ ВЕЖЫ

Перабіраемся на найбольшую будоўлю Беластока, дзе сучасную падляшскую Вавілонскую вежу ўжо 25 гадоў будуе нястомнны абітурыент беларускай філалогіі Марцін Партызанаў, малады, забыты беларускім асяроддзем паэт, а разам з ім арлы Марка Энгельса, найбольш слаўнага шэфа будаўнічай фірмы ў Беластоку: Сяргей Ленін, Стасек Сталін, Вацэк Брэжнеў, Мікола Стадола і Войтэк Мазавецкі — апошнія з магікан фізічнай працы, перадавікі рабочага класа, соль гэтай зямлі. Ад дваццаці пяці гадоў будуюць першую падляшскую Вавілонскую вежу для жыхароў Саколкі, Бельска, Гайнаўкі, Сямятыч, Ломжы, Сувалкаў і многіх гарадкоў і вёсак шматлюднага і шматнацыянальнага Падляшша, якое мусіць знайсці сябе ў шматколерным калейдаскопе гарадской агламерацыі нашага чароўнага красуна Беластока. Усе зараз знаходзяцца на пясцьсот шэсцьдзясят шостым паверсе, які завяршыць не могуць. Усе не могуць знайсці сябе ў новай буржуазнай сістэме, таму кайфуюць пад паўлітра самагонкі, якую горда завуць яшчурам (пряшчыцай).

— *Orły do roboty, kurwa*, — разносіцца мядзведжы голас Марка Энгельса, шэфа будаўнічай фірмы «Кант-энд-Ошуст» — апошняга працоўнага лагера для спіртажэраў.

— *Jak najebany, do domu*, — кажа Марцін.

— Аддавай маю зарплату, — крыкнуў Коля Стадола, найбольшы развозчык самагонкі на будове, які махае старой заржавелай сякерай, якая памятае не адну падобную сітуацыю на будове і якая не раз перамагла ў слушнай справе.

— Адчапіся! Скуль я вазьму? — раве гучна Энгельс.

— А хто і за чые грошы купіў гэтую машыну?

— У пазыку я ўзяў...

— Добра, добра! Ты не валяй дурака, давай грошы або разаб'ю гэтай сякеркай усю вежу!

Хлопцы ад трох месяцаў нічога не пілі, таму што шэф не дае зарплаты. Найгоршае, што не маюць чаго курыць. Адзін толькі Марцін курыць дзіўна тонкія папяросы.

— Будзь чалавекам, дай закурыць.

— *Daj, to chiński sprzedawca jaj.*

— Дам пад адной умовай, што я буду ляжаць, а ты паносіш усе пакеты цэглы.

Калі Сталін закурыў, дык моцна закашляў, быццам хворы на сухоты.

— *Курва, курва, цо то ест?*

— Што, не прывыклы да гарадскіх папяросак?

— *Іле лят жые на тым свеце, то не палілэм тэго...*

— Дзіўны смак, — падтаквае Войтэк.

— Рускія, а мо кітайскія... — прабуе ўзгадаць Сяргей Партызанаў.

— Эканамічна — адна папяроска на ўсіх, — падкрэсліў Чэсек Ленін.

Закурылі ўсе і перайначыліся ў лятучыя птахі-чарадзеі. Пад уплывам дзясятак крылаў над будоўляй узняўся смерч, устрапянулі крылы і ўсе гучна ўсклікнулі:

— За Сталіна!

— За Леніна!

— За Брэжнева!

— За Гарбачова!

— За Ельцына!

— За Пуціна!

— Ура, ура, ура!!!

Пасля ўсе закурылі, замахалі рукамі і адляцелі з пятнаццатага паверха проста на купу пяску і толькі чутны быў глухі гук падаючых цел будаўнікоў — пац, пац, пац пац...

— *Курва, цо се дзее, дзе хлопакі?* — Энгельс схапіўся за галаву.

— *Latać każdy może...* — у старым радыёпрыёмніку маркі «Верас» вяшчала Радыё Złote Pierdoły, спяваў хрыплы голас Януша Панасэвіча і гучала характэрная гітара Яна Барысэвіча, дуэту з «Lady Pank». А пасля Марцін узяў шуфлю, быццам гітару, зайграў на ёй ды заспяваў несмяротны хіт польскай рок-групы «Elektryczne Gitary»:

*Wszyscy mamy źle w głowach, że żyjemy,*
*hej hej la la la la hej hej hej hej*

### ВЯСЕЛЬНАЯ КАМАНДА

Падаемся на фестываль беларускай вясельнай песні Падляшша, што адбываецца ў наваколлі Гарадка. Наз'язджалася там многа гуртоў з цэлага Падляшша і Беларусі. Гурты з Беласточчыны крычаць са сцэны па-беларуску, падбадзёрваючы публіку на беларускай мове. А гурты з Беларусі на ламаной польскай мове за кожнай сваёй песняй крычаць :

— *Рэнцы до гуры, бавімы се!*

Галоўным героем фестывалю «Вясельная каманда» з'яўляецца гурт «Гулякі» і яго лідар Янка Кудравец. Гэта ён збірае галоўныя прызы і караваі ад гуртоў. Ансамбль «Цярэшкі» з Цярэхаў за кожным разам пяе гімн фестывалю:

*Гэй вясельная каманда*
*Гуляць нада, гуляць нада!*

Публіка імпрэзы — у асноўным пенсіянеры. Кудравец крычыць :

— Ці ёсць дзяўчаты? Няхай запішчаць!

І пішчаць дзяўчаты ва ўзросце шасцідзесяці гадоў плюс.

Прысутныя гурты «Непаседы» з Гродна, «Цярэшкі» з Цярэшак, «Калінкі» з Калінак. Нейкі час таму выступала група «Грымата» са Слоніма. Ёсць таксама гурт «Хуліганы» са сваім лідарам Славай Каўбаснікавым, які вось выходзіць на сцэну і ўручае лідару гурта «Гулякі» караваЙ са словамі :

— Янка, каб табе заўсёды стаяў ды не ападаў.

Кудравец, крыху збянтэжаны, пытае :

— Твой ці мой?

Лідар гурта «Хуліганы» толькі падміргвае вокам да жонкі Кудраўца і, быццам не пачуўшы гэтых слоў, пад рытм бадзёрай электроннай музыкі спявае свой новы хіт «Аза, Аза, ах какая ты зараза!». Падзелены натоўп гуляе напоўніцу, танцуючы і спяваючы з гуртом «Хуліганы».

— Это же песня Сергея Масковского! — хвалюецца нейкі музыкант з Беларусі. Але чаго ж тут хвалявацца, калі амаль усе песні гуртоў на Падляшшы гэта копія рускай папулярнай музыкі, толькі ў беларускім варыянце. На сцэну ўрываецца п'яны пяцідзесяцігадовы мужчына, якога Слава Каўбаснікаў пытае:

— Дзядзьку, што вы хочаце? Самагонку вось там прадаюць.

— Адчапіся ад маёй дачкі, у цябе ж свая жонка і дзеці.

— Дзе строна, там жона, — каменціруе нейкі народны пявун з Беларусі, які хоча пахваліцца сваёй ламаной польскай мовай, якой навучыўся толькі таму, каб атрымаць карту паляка і ездзіць на пакупкі са свайго Гродна ў Беласток. Вядома, што халадзільнікі і тэлевізары, купленыя ў Польшчы гэта самы лепшы хабар для начальніка ці настаўніка з Беларусі. А народ моцна падхмелены гуляе і не зважае на бацьку пакрыўджанай дзяўчыны, відаць, былой фанаткі гурта «Хуліганы». І ўсё файна, і цацы. Нікога не абыходзіць нейкі п'яны дзядзька, якога ахоўнікі выводзяць са сцэны на публіку. Жыхары Беларусі размаўляюць па-руску, а беларусы з Падляшша — па-падляшску.

— Чаго, хаме, не ляпаеш?! Ляпай, як я іграю і спяваю ! — крычыць са сцэны спявак правінцыйнай сцэны.

Пасля яго выступае капэла «Купэр», якая спявае песню «Сажралі рожу». Энтузіястычна ўспрымаецца група «Вясельнікі» з Беластока, якая спявае песні «Белые розы», «Седая ночь» і «Детство».

— Это же русские песни нашего Юрия Шатунова и группы «Ласковый май»! — усклікае чалец гурта «Непаседы» з Гродна. Пасля гучыць песня «Вёсачка» з рэпертуару групы «Белый день» ці «Колечко» — упершыню праспяванай Тацянай Аўсеенка. Гурт «Гонар» з Нарвы спявае песню Андрэя Бандэры «Ты ляці, мая душа». Пасля гурт «Волата» спявае песню «Варажы ты мне, цыганка» з рэпертуару Міхаіла Шуфцінскага.

А потым выступаюць Галя і Валя, гурт «Непацешкі», група «Красны», хор Хвастовіча, ансамбль «Гаманіца» і ўсе тыя, хто хоча хоць раз адчуць сябе панам сцэны, прававацца песняй у натоўп. Сярод народу ад часу да часу пад'язджае вялікаватая бочка на двух колах, якую адзін дзядзька цягне, а другі з краніка налівае напітак у бляшаную кварту ды частуе некага са шматлікай публікі. Варта сказаць, што гэтых двух таямнічых дзядзькоў гэта сапраўдныя спонсары фестывалю «Вясельная каманда» — Толік і Колік — нашы любімыя самагоншчыкі з гарадоцкага лесу. Гэта яны самыя галоўныя героі імпрэзы, яны ж кіруюць шчырымі эмоцыямі публікі фестывалю.

1 ☞ працяг

# Пікнік з Беларусам

адбываецца таксама прамоцыя белліцэя ў Гайнаўцы і наваколлі, — заявіў старшыня Аб'яднання «Наша школа», настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі, які вёў мерапрыемства разам з гімназісткай Маргарытай Галёнка.

Першым цікава і па-акцёрску зайграў перад публікай на акардэоне выпускнік белліцэя Яцак Дружба. Чарговымі выступоўцамі былі белліцэісты і белгімназісты. Калі танец «Слуцкія паясы» прэзентаваў танцавальны калектыў, на сцэне выдатна спявала «Знічка», з якою зараз паспяхова займаецца настаўніца Паўліна Скепка.



■ Дэлегацыя Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь: намеснік міністра адукацыі Раіса Сідарэнка (трэцяя справа ў першым радзе), намеснік начальніка Галоўнага дэпартамента адукацыі Ірына Каржова (чацвёртая справа), генконсул РБ у Беластоку Ала Фёдарава (другая справа), першы сакратар Пасольства РБ Ілона Юрэвіч (першая справа) і начальнік Галоўнага ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Сангін (трэці злева). Беларускім гасцям спадарожнічалі віцэ-куратар Альжбета Камінская (другая злева) і гайнаўскі староста Андрэй Скепка (першы злева)

— Цяпер у калектыве «Знічка» выступае 13 асоб, але сёння спявала дзесяць вучняў. Раней я вучыла спевам дашкольнікаў і вучняў пачатковай школы. Зараз вучу музыцы ў белліцэі і працую са «Знічкай». Праца з моладдзю з аднаго боку больш складаная і патрабуе іншай ангажаванасці, але радуюць рэзультаты, якія бачны на сцэне, — заявіла настаўніца Паўліна Скепка, якая з'яўляецца таксама музычным кіраўніком Хору леснікоў Белавежскай пушчы.

«Знічка» і танцавальны калектыў па-майстэрску выканалі таксама іншыя песні і танцы. Музычны кіраўнік танцавальнага калектыву Вольга Вілюк удакладніла, што ў рэпертуары калектыву маюцца перш за ўсё беларускія народныя танцы, якія сама апрацоўвае на патрэбы школьных самадзейнікаў.

Займальна выступілі на беларускай мове дашкольнікі з калектыву «Калебка» Прадшколля № 1 у Гайнаўцы з вельмі багатай тэатральна-музычнай пастаноўкай «Рэпка». З ёй гайнаўскія дзеткі здабылі ўзнагароду гран-пры тэатральнага агляду, які ладзіць БГКТ. Дашкольнікі ў адмысловых касцюмах адважна і па-акцёрску паказалі пастаноўку, за што былі ўзнагароджаны гучнымі апладысментамі. Калектыў «Калебка» падрыхтавалі да выступу настаўніцы Міраслава Ніканчук, Ала Супрун, Вольга Вілюк і Эва Шыманская. Цікавая праграма дашкольнікаў спадабалася таксама гасцям з Беларусі. Адважна і цікава выступілі таксама дашкольнікі з Пардшколля № 2 у Гайнаўцы, з якімі займаюцца настаўніцы Агнешка Харытонаў і Ягенія Казімірук. Усе дашкольнікі выступілі ў прыгожых рознакаляровых касцюмах.

— Наш дашкольны калектыў паспяхова выступае ў час «Беларускай песні» і дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова». Мы рады, што запрасілі нас выступаць у час пікніка. Спадзяемся, што выступім і ў будучыні, — сказала настаўніца Агнешка Харытонаў, выпускніца Гайнаўскага белліцэя.

Цікава запрэзентаваўся таксама хор Непублічнага прадшколля свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы, з якім займаецца настаўніца Паўліна Скепка. Займальна пад акампанемент Марка Зубрыцкага на акардэоне выступіў школьны калектыў «Сунічкі» з Белавежы, музычным кіраўніком якога з'яўляецца Анджаліна Масальская. Па-акцёрску заспявалі і захапілі публіку белліцэйскія салісткі Вераніка Пташынская са «Знічкі», Ізабела Карчэўская, якая пастаянна займаецца ў Студыі песні ГДК, а таксама Зося Філіпюк з Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, якой рыхтавацца дапамагае настаўніца беларускай мовы Марыя Крук. Цікава і займальна запрэзентаваліся таксама белліцэйскія дуэты Эва Кот і Артур Маркоўскі, Вераніка Пташынская і Андрэй Бабулевіч, Лідзія Бараніч і Кацярына Дунда. Моладзь да танца заахвочваў гайнаўскі калектыў «Метро». Калі мацней стала прыпякаць сонца, публіка стала хавацца ў цяньку вялікіх дрэў, якія акружаюць пляцоўку і школьны будынак. Не зважаючы на спёку, публіка моцна апладзіравала выканаўцам, што было добрай падзякай спевакам, танцорам і акцёрам, якія паказалі тэатральную пастаноўку.

❖ Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




# http://litara-a.by

Разам з глыбокім укараненнем у наша жыццё сучасных інфармацыйных тэхналогій узнікаюць і новыя формы праяўлення жанраў літаратуры. Цяпер яна не толькі ў кніжках ці ў радыё- і тэлепастаноўках, як было яшчэ трыццаць гадоў таму. Цяпер кожны, хто хоча, можа абнародаваць сваё дэкламаванне вершаў, якія, на яго думку, мусяць спрыяць агульнаму развіццю культуры ў грамадстве. Такім чынам, напрыклад, распаўсюджваюць беларускае слова ўладальнікі сайта **http://litara-a.by**.

Калі трапіць на дадзены сайт, то перад нашымі вачыма адкрыюцца размешчаныя там відэапрэзентацыі вершаў і некалькі выйсцяў на рубрыкі. Згодна з пададзенай там інфармацыяй, сайт — віртуальнае прадстаўніцтва культурніцкай платформы, „якая накіравана на развіццё беларускай і сусветнай культуры". Сцвярджэнне даволі смелае, бо такім чынам можна аднесці да намаганняў развіцця якой заўгодна культуры кожнае дэкламаванне вершаў. Іншае вызначэнне платформы, як накіраванай на дыялог паміж краінамі, нацыямі, культурамі — людзьмі з усяго свету, падаецца больш рэалістычным.

„Праз мастацтва жывога слова мы яднаем неабыякавых людзей. Здымаем літаратурныя відэа, арганізоўваем культурніцкія мерапрыемствы ды конкурсы. Платформа Litara-A для многіх маладых людзей — пляцоўка для раскрыцця сваіх талентаў. Нашы каштоўнасці — свабода, творчасць, любоў да сваёй Бацькаўшчыны, крэатыў, сяброўства і прага пазнаваць новае", — распавядаецца ў рубрыцы „Пра нас".

Першае відэа на галоўнай старонцы вельмі актуальнае. Па ўсім відаць, што яно размешчана з нагоды нядаўніх падзей у Курапатах, дзе ляжаць тысячы і тысячы забітых бальшавіцкай уладай нявінных людзей, і дзе цяперашняя лукашэнкаўская ўлада выдзёргвала крыжы памяці. Пры гэтым відэа з вершам Анатоля Сыса „Адпусціце мяне, Курапаты" было запісана яшчэ ў 2015 годзе. Не могуць не кранаць словы з твора, які чытае адзін з натхняльнікаў ідэі дадзенай платформы Дзяніс Бурко: „Адпусціце мяне да хаты./ Як жа так — прапусціць сяўбу?/ Я ж да смертухны быў аратым,/ я ж прашуся не на гульбу./ А ў залог вам пакіну кулю,/ і — дадому, у Жураvы!/ Зайду ў двор, абдыму матулю,/ пацалую, нібы жывы".

Усе відэавершы змешчаны ў аднайменнай рубрыцы. Там жа можна пабачыць і даведацца пра тых, каму цікава пачытаць вершы па-беларуску. Сярод гэтых твораў таксама і перакладзеныя з іншых моў.

Дзейнасць маладых людзей, якія стварылі „Літару-А", была амаль адразу заўважана беларускімі медыямі. У рубрыцы „Пра нас" месцяцца тэксты пра яе. Менавіта адсюль можна даведацца, што дадзены праект распрацавалі і запусцілі рэжысёр, кіраўнік студыі відэапрадакшну „Zvonka" Павел Доўнар і мадэль, настаўнік беларускай мовы і літаратуры Дзяніс Бурко. Прычым спачатку ён рэалізоўваўся выключна праз сацыяльныя сеткі. Паводле тэксту на сайце „Беларускія навіны", які быў апублікаваны ў 2014 годзе, хлопцы мелі намер знаёміцца і наладжваць супрацу з пісьменнікамі. „Мы — карпарацыя па захопе беларускіх сэрцаў", — казаў Дзяніс тады.

Найпазнейшы агучаны твор, што змешчаны на сайце, датуецца кастрычнікам 2015 года. Магчыма, не ўсё склалася з літаратурнай платформай так, як планавалася напачатку.

## Дата з календара

# 100 гадоў з часу

## антыбальшавіцкага паўстання на поўначы Беларусі

Сто гадоў таму на тэрыторыі некалькіх раёнаў сучаснай Віцебскай вобласці адбылося антыбальшавіцкае паўстанне. Яно пачалося 14 чэрвеня 1919 года ў мястэчку Германавічы. Праз дзень паўсталі Мёры, Пагост, Чэрасы, Крукі. У Мёрах паўстанцы захапілі ў палон мясцовы выканкам, але расстраляць яго членаў не паспелі, таму што 20 чэрвеня рота 151-га чырвонаармейскага палка, якая наступала з боку Дзісны, выбіла паўстанцаў з Крукоў, Чэрасаў і Мёраў.

Паўстанне, якое пачалося ў парафіяльнае свята ўзначалілі беларускі каталіцкі святар Міхал Буклярэвіч, пробашч Іказні, і яго сястра Аліцыя. У Пагосце да паўстанцаў далучыліся шляхціц Шумскі, сяляне браты Шаўчыкі і адстаўны салдат Майскі. У кіраўніцтва паўстанцаў увайшлі былы акалодачны наглядчык Гурвіч, прыстаў Жаба, штабс-капітан Бондар-Нарушэвіч. У Мёрах паўстанцаў узначалілі мясцовы ксёндз Грынеўскі і арганіст Базыль (прозвішча невядомае).

Значную частку паўстанцаў складалі дэзерціры. Бальшавікі якраз абвясцілі мабілізацыю ў войска мужчын ва ўзросце ад 16 да 43 год, і яны хаваліся па лясах, не жадаючы служыць у Чырвонай Арміі.

Штаб паўстанцаў месціўся ў мястэчку Іказнь. Хутка ў Перабродддзі быў разбіты адзін з чырвонаармейскіх атрадаў, высланых на здушэнне паўстання. Пры гэтым быў забіты браслаўскі вайсковы камісар Брылевіч. Прыкладна тады ж паўстанцы разграмілі савет у Мілашове.

Лозунгі паўстанцаў „Далоў Саветы!", „Смерць камуністам!", „Няхай жыве незалежнае войска!" сведчаць пра поўнае непрыманне бальшавіцкай улады і яе непапулярнасць. Да гэтага прывяло тое, што за паўгода камуністы абрабавалі людзей так, што ў рэгіёне быў голад.

Прычыны паўстання яскрава паказаныя ў дакладзе ваеннага камісара Віленскай губерні Кішчука ў савет абароны Літбела на імя Міцкявічуса-Капсукаса „Аб бела-зялёным паўстанні ў Дзісненскім і Браслаўскім паветах Віленскай губерні ў чэрвені 1919 года". Камісар намаляваў жахлівую карціну беззаконня, якое чынілі ў гэтым рэгіёне ягоныя аднапартыйцы.„Бессістэмныя рэквізіцыі, канфіскацыі, рабаванні пад фірмай камуністаў, беспрычынныя расстрэлы былі галоўным заняткам валасных выканкамаў". Асабліва шалеў кіраўнік камуністычнай суполкі ў Шаркаўшчыне, ён жа старшыня выканкама і ваенны камісар, нехта Маляўка. „Маляўка са сваімі прыхільнікамі выпісваўся старшынёй павятовага выканкама ў Дзісну для расстрэлаў, якія праводзіліся тут без суда, калі мясцовыя чырвонаармейцы і міліцыянты адмаўляліся іх выконваць", — гаворыцца ў дакладзе. Паўстанцы ўрэшце арыштавалі Маляўку, які адразу памяняў афарбоўку і спрабаваў выдаць сябе за „бела-зялёнага", спраўу арышту сваіх жа міліцыянтаў. Але гэта яму не дапамагло. У Пагосце Маляўка быў забіты паўстанцамі. Перад смерцю былога „аўтарытэта" і страх Шаркаўшчыны, а таксама некага камуністаінтэрнацыяналіста з Польшчы прагналі праз шыхт.

Нягледзячы на адчайнае змаганне, паўстанне было здушана ў канцы чэрвеня. Ксёндз Міхал Буклярэвіч і яго сястра Аліцыя пасля жорсткіх катаванняў расстраляныя 27 чэрвеня 1919 года ў мясцовасці Бігосава.

Паўстанцы не дачакаліся падыходу польскіх войскаў, на якія вельмі спадзяваліся. Польскае войска прагнала бальшавікоў з Браслаўшчыны і Дзісненшчыны ў жніўні 1919 года — праз месяц. 24 сакавіка 1920 года святар Буклярэвіч і яго сястра былі перапахаваны ў Іказні.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

***На фота:*** *святар Міхал Буклярэвіч*

# Вучыцца на роднай мове. Восем фактаў пра беларускія школы

21 лютага ў свеце адзначаецца Дзень роднай мовы. Падчас апошняга перапісу насельніцтва (2009 год) роднай мовай беларускую назвалі 53,2% насельніцтва краіны. Асноўнай мовай зносін 70% назвалі расейскую. У Беларусі жыве 140 нацыянальнасцей і народнасцей, і многія з іх роднай мовай лічаць менавіта нацыянальную — украінскую, расейскую, літоўскую, польскую. Ці ёсць у Беларусі магчымасць вучыцца на роднай мове?

**1. На беларускай мове вучыцца 13,3% дзяцей**

Паводле афіцыйнай статыстыкі, беларускамоўных школ у краіне 46,6%, але бальшыня ў сельскай мясцовасці. Паводле афіцыйнай статыстыкі, апублікаванай на сайце Міністэрства адукацыі, у 2016/2017 навучальным годзе ў 1-11-х класах школ Беларусі навучалася прыкладна 967 тысяч дзяцей, з іх 128,6 тысячы (13,3%) — на беларускай мове. Больш актуальнай інфармацыі ведамства не прыводзіць.

**2. У сталіцы Беларусі сем беларускамоўных школ і гімназій**

1. Гімназія № 4 (вуліца Кунцаўшчына, 18 — Фрунзенскі раён)
2. Гімназія № 9 (вуліца Сядых, 10 — Першамайскі раён)
3. Гімназія № 14 (вуліца Васняцова, 10 — Заводскі раён)
4. Гімназія № 23 (праспект Незалежнасці, 45 — Савецкі раён)
5. Гімназія № 28 (праспект Ракасоўскага, 93 — Ленінскі раён)
6. Сярэдняя школа № 60 (вуліца Карла Лібкнехта, 82 — Маскоўскі раён)
7. Сярэдняя школа № 190 (вуліца Нікіфарава, 19 — Першамайскі раён)

**3. У абласных гарадах няма ніводнай беларускамоўнай школы**

У некаторых абласных цэнтрах (Магілёве, Горадні) ёсць толькі малакамплектныя беларускамоўныя класы.

**4. Толькі ў двух са 118 раённых гарадоў ёсць беларускамоўныя гімназія і школа**

Пры Барысаўскай беларускамоўнай гімназіі № 2 існуе пачатковая школа, навучанне ў якой таксама вядзецца на беларускай мове. У гімназіі дзейнічаюць студыі «Гліняная цацка», «Саламяны цуд», «Бісерапляценне», папераплaстыкі і мяккай цацкі.

У Янаве Берасцейскай вобласці цалкам беларускамоўная сярэдняя школа № 4. Працуе яна ад 1990 года. Раней у актавай зале СШ № 4 знаходзілася арыгінальнае пано з харугвамі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Але некалькі гадоў таму яго знішчылі.

**5. Некаторыя беларускамоўныя школы перайшлі або на змяшанае, або на расейскамоўнае выкладанне**

Так, Глыбоцкая СШ № 3 раней была беларускамоўная, але з 2006 года яна стала двухмоўнай. А знакамітая Наваградская гімназія № 1, у якой некалі вучыўся і выкладаў Барыс Кіт, стала цалкам расейскамоўнай.

Навагрaдскую беларускамоўную гімназію № 1 адкрылі ў 1919 годзе. Спачатку яна не мела свайго будынка, заняткі праходзілі ў габрэйскай школе. Дапамагалі ўзводзіць адмысловы будынак бацькі вучняў. Працавала беларускамоўная гімназія і пад нямецкай акупацыяй. Яе выпускнікі — Барыс Кіт, Леанід Барысаглебскі, Леў Гарошка, Язэп Сажыч, Уладзімер Сіўко, Міхась Рагуля, Барыс Рагуля, Уладзімер Набагез, Барыс Сладоўскі.

Цяпер Навагрaдская сярэдняя школа № 1 — цалкам расейскамоўная.

**6. Гісторыя і геаграфія Беларусі выкладаюцца па-расейску**

Некалі ў расейскамоўных школах Беларусі прадметы «Гісторыя Беларусі» і «Геаграфія Беларусі» выкладаліся па-беларуску, але ад 2006/2007 навучальнага года іх перавялі на расейскую мову.

**7. У Беларусі дзве школы з польскай мовай навучання**

Гэта Сярэдняя школа № 36 у Горадні і Сярэдняя школа № 8 у Ваўкавыску. Абедзве пабудаваны на польскія грошы. У ваўкавыскай школе з польскай мовай навучання вучацца 240 дзяцей.

**8. У Беларусі дзве літоўскія школы**

Школы з літоўскай мовай навучання месцяцца ў вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна і вёсцы Пялеса Воранаўскага раёна. Літоўская школа ў Рымдзюнах працуе з 1996 года. Таксама ў Рымдзюнах ёсць літоўскі дзіцячы садок.

Літоўскія і польскія школы знаходзяцца ў Гарадзенскай вобласці.

**Іна СТУДЗІНСКАЯ** (Радыё Свабода)

# Толькі адзін з дзесяці першакласнікаў Беларусі вучыцца па-беларуску

Аналітык праекта «Кошт ураду» Дзмітры Івановіч на фейсбуку звярнуў увагу на афіцыйную статыстыку размеркавання вучняў у беларускіх школах паводле мовы навучання.

У мінулым навучальным годзе толькі 10,7% першакласнікаў вучыліся па-беларуску.

Прытым, калі ў Менскай вобласці такіх было 21,6%, то ў самой сталіцы — толькі 1,9%. У гарадах іншых абласцей яшчэ меней. Антырэкорд — у гарадоў Гомельскай вобласці, дзе па-беларуску вучыліся 0,1% першакласнікаў, усяго 17 чалавек.

Магілёўскія чыноўнікі прызналі, што падрыхтоўка беларускамоўных настаўнікаў у заняпадзе

Доля першакласнікаў, якія вучацца на беларускай мове, падае. Яшчэ ў 2013/2014 навучальным годзе такіх было 13%, за тры гады іхная доля скарацілася на 2,3 адсоткавага пункта.

У сельскай мясцовасці па-беларуску ўсё яшчэ вучыцца больш за палову першакласнікаў, але і іх доля змяншаецца: з 61,5% у 2013/2014 навучальным годзе да 57,5% у 2017/2018.

**Адраджэнне мовы: што можа дзяржава?**

На 2016/2017 навучальны год у Беларусі на беларускай мове навучалася 9,7% дашкольнікаў (2,4% у гарадах і 54,4% у сёлах), 13,3% вучняў устаноў сярэдняй адукацыі, 0,1% вучняў у сярэдняй спецыяльнай адукацыі і 0,2% — у вышэйшай.

Ніводнай цалкам беларускамоўнай установы вышэйшай адукацыі ў Беларусі няма. Змяніць гэта спрабуе ініцыятыўная група на чале з былым старшынёй Таварыства беларускай мовы Алегам Трусавым, якая рыхтуе да адкрыцця Універсітэт імя Ніла Гілевіча.

**Вучыцца на роднай мове. Восем фактаў пра беларускія школы**

Там часам розныя дзяржаўныя ведамствы выступілі супраць законапраекта дэпутаткі палаты прадстаўнікоў і старшыні ТБМ Алены Анісім аб падтрымцы беларускай мовы.

Як паведаміла Свабодзе прэсавая сакратарка Міністэрства адукацыі Людміла Высоцкая, за 2018/2019 навучальны год статыстычных даных яшчэ няма.

**(Радыё Свабода)**

# 16.06 — 22.06

**(22.03. — 20.04.)** Не дай сябе справакаваць сваім праціўнікам. 17.06. магчымыя выпадкі, аварыі, спазненні, твая кватэра можа стаць пустая. 17-19.06. мусіць быць поўная канцэнтрацыя на працы. 17-23.06. будзеш кіпець энергіяй. Паміж 18-22.06. лепш будзе не падпісваць важных дакументаў. Балансуй паміж уласнымі патрэбамі і тым, чаго чакаюць ад цябе іншыя.

**(21.04. — 21.05.)** 16-17.06. сустрэча можа стаць пачаткам файнага сяброўства. Здароўе, прыліў сіл. 17-21.06. — многа аптымізму, энергіі. З даверам глянеш у будучыню. З 20.06. абдумвай кожны крок і кожнае слова.

**(22.05. — 22.06.)** 16-17.06. моцна зацікавіць цябе новая галіна ведаў. 16-19.06. — важнае асабістае рашэнне. 17-19.06. наведае цябе хтосьці з далёкай дарогі, а весткі ад яго будуць вартыя золата. 19-23.06. развяжаш усе найважнейшыя справы, будзеш рашучы, канкрэтны і пераканаеш іншых. У пары пачнецца магчымасць лепшага дыялогу. Цяжэй, чым думаў, будзе з выплатамі пазык і абавязацельстваў.

**(22.06. — 23.07.)** Не ідзі на аперацыі. 17-19.06. пераможаш у кожнай спрэчцы і паб'еш канкурэнцыю. 16-17.06. адкрыеш сваё новае жыццёвае заданне. 17-20.06. хтосьці схоча падставіць табе нагу. 17-23.06. можаш пазмагацца за павышэнне. Магчымыя не вельмі прыемныя сітуацыі. Усё ж штосьці выйдзе з тваіх праектаў. З 21.06. прыток ажыўляльнай энергіі. Добры настрой, энтузіязм, вера ў сябе. Самотнаму Раку ўдасца спаткацца з кімсьці цікавым, ды гаворка будзе перш за ўсё пра службовыя справы.

**(24.07. — 23.08.)** 21-22.06. будзеш належным чынам ацэнены. 17-18.06. пераканаешся, што ў спальні можна цябе яшчэ нечым задзівіць. Для блізкіх не будзь занадта неласкавы. Крывадушнікаў рассакрэціш адразу. Магчымыя шчаслівыя выпадкі (як і ўвесь месяц).

**(24.08. — 23.09.)** 16-17.06. могуць вярнуцца старыя праблемы. 19-23.06. зноў пачнуць цябе моцна турбаваць з-за таго, што было калісьці. Можаш даць добрыя парады іншым дзякуючы свайму вопыту. 17-21.06. будзеш адчуваць стому ад таго, што прымушаць цябе будуць да таго, на што не маеш ахвоты. Спатрэбішся як кансультант у нейкіх фірмовых справах.

**(24.09. — 23.10.)** 16-18.06 нагоды для забавы. 17-19.06. неабдуманае рашэнне можа табе многа каштаваць. Маеш прыхільнасць атачэння ад Венеры. Наладзіш карысныя знаёмствы. 17-23.06. лепш прамаўчаць, чым пачаць адкрытую вайну. Затое можаш адкрыць, што твае патомкі не вельмі шчырыя ў адносінах да цябе. Не трàць грошай на псіхааналітыкаў, толькі хапай тэлефон і звані да сябра ці сяброўкі.

**(24.10. — 22.11.)** 16-20.06. магчымыя дробны канфлікты з калегамі на працы. 17-19.06. можаш заспець сваю каханую асобу на скоку ў бок. 18-20.06. знойдзешся на рабоце «на языках». 16-17.06. могуць занепакоіць цябе вынікі некаторых медабследаванняў. 17-23.06. не паспрачайся з роднымі. З 17.06 да 21.06. ты лішне рызыкоўны, прагны, з ахвотай дамінаваць іншых.

**(23.11. — 22.12.)** 16-18.06. адкрыюцца прад табою новыя магчымасці, напрыклад, змены працы на больш платную. Але трэба будзе перамагчы шматлікую канкурэнцыю. Не еж абы-чаго, каб не апынуцца ў бальніцы. Ды з 22.06. кепскі настрой шэфа і ігнараванне ім сваіх падуладных могуць увесці цябе ў паганы настрой.

**(23.12. — 20.01.)** 17-29.06. вельмі пільнуйся на вуліцы і не рызыкуй. 16-17.06. горача і цікава ў спальні. 16-17.06. можаш замахнуцца на заснаванне ўласнага бізнесу. 17-19.06. на працы дасі сабе рады ў стрэсавай сітуацыі. Ахвота ўзяцца за рамонт ці грунтоўнае прыбіранне дома ці дачы — з поспехам. Асцярожна з фінансамі. Хай хатнія не ўлазяць табе цяпер на мазоль! Асабліва 16-17.06. можаш быць злосны і раздражнены.

**(21.01. — 19.02.)** 16-17.06. можаш апынуцца ў сітуацыі без выхаду. З 21.06 можаш страшэнна закахацца. Пакажаш сваю рашучасць, а нават баявітасць у абароне сваіх поглядаў і сістэмы каштоўнасцей. Вельмі добры час на гандлёвыя здзелкі. На працы поспехі, добрая атмасфера. Можаш бліжэй пазнаёміцца з асобай, якая цябе здаўна цікавіла. Ты цяпер творчы і прыцягальны!

**(20.02. — 21.03.)** 16-17.06. пакажаш свае здольнасці да кіравання іншымі. 17-23.06. можаш справакаваць канкурэнта мацнейшага ад сябе. 16-17.06. не стань ахвярай зайздроснікаў. 16-17.06. можаш выдаць больш касы з-за якойсьці аварыі. 17-19.06. найбольш цікавых і натхняльных сустрэч. З 21.06. час нялёгкі ў пары. Будзеш адданы без рэшты працы (мусіш дапільнаваць сваіх спраў, каб мець фінансавыя эфекты) і дому. Сэнс і мэта жыцця — быць сярод блізкіх. Абавязкова збегай да стаматолага!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** араматычная смала для богаслужэння, **2.** адвар з мяса з дабаўленнем розных прыпраў, **3.** травень, **4.** пратэстанцкі святар, **5.** асобнае ўмацаванне ў сістэме крапасных збудаванняў, **6.** дзяржава з Бруселем, **7.** аднамысніца, **8.** невялікая пеўчая птушка (*Pyrrhula pyrrhula*), **9.** вялікая колькасць сыпкага матэрыялу, **10.** вялікі кітайскі горад.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | | | |
| | 2 | | 3 | 4 | | | 5 | | | |
| | | | | | | | | | | 6 |
| | | 7 | | 8 | 9 | | | | | 10 |
| | | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Папрок, Арый, газета, Данія, дзік, Няміга, Швецыя, бот, удзел, кудзеля, Ева, Ікар, маёр, Ясельда.

Рашэнне: **Прыйдзе тая нядзеля, што будзе і маё вяселле**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Па Міжземным моры

На Еўрапейскай плошчы Ларнакі, насупраць яхтавага басейна, стаіць сціплы бронзавы помнік, на якім някідкая фігура старажытнага чалавека. Гэта помнік ураджэнцу старажытнай Ларнакі Зянону Кіційскаму. Старажытны горад на месцы сённяшняй Ларнакі называўся менавіта Кітыён. Зараз па ім асталіся адно фундаменты колішніх збудаванняў, якія археолагі лічаць падмуркамі старажытных храмаў, прысвечаных фінікійскім, грэчаскім і іншым багам, якім пакланяліся колішнія насельнікі Кіпра. Самымі вядомымі з іх былі багіні любві і пладавітасці — фінікійская Іштар і грэчаская Афрадыта.

Помнікавая фігура Зянона някідкая, але ягоныя думкі праклалі буйны след у будучыню, у тым ліку і ў наш час. Зянон паходзіў з адносна багатай фінікійска-грэчаскай сям'і. І яму замарылася, так як гэта заўсёды марылася маладым энергічным людзям, падацца ў яшчэ лепшы свет; выбраўся ён у Афіны, якія на той час былі важным грамадскім цэнтрам. Забраў ён з сабою серабро, за якое прадаў сваю маёмасць і адправіўся ў рэйс караблём. І ўжо недалёка Афін здарылася караблекрушэнне, у выніку якога ў Зянона з ягонай багатай маёмасці або нічога не асталося, або асталося вельмі мала.

Такія катастрафічныя падзеі, на грані жыцця, ці то на грані задуманых мараў, пакідаюць у таленавітых людзей буйное месца для роздумаў над жыццёвым асэнсаваннем. І так сталася з Зянонам. Магчыма, што ягоным роздумам паспрыяў і тагачасны распад бадай найбольшай старажытнай імперыі — дзяржавы Аляксандра Македонскага. Растварэнне імперыі гэта ж таксама для некаторых людзей катастрофа. Хаця б, для прыкладу, не надта даўні роспуск Савецкага Саюза адняў у некаторых людзей жыватворныя сілы; маршал Ахрамееў ад такога ўдару па ягоным ідэале вырашыў неадкладна перабрацца ў „лепшы свет". Што ж — любоў не картошка...

Зянон таксама мог бы — з роспачы па кануўшым у бездны Эгейскага мора ягонаму багацьцю — падацца туды ж за сваім серабром. Аднак ён выбраў іншае вырашэнне склаўшайся сітуацыі — ён кануўся ў роздумы. Наведваў ён лекцыі розных афінскіх філасофаў, аднак іх погляды яго не задаволілі. Ён заснаваў уласную філасофскую школу, якая дала пачатак новаму напрамку экзістэнцыяльнай думкі; новы напрамак атрымаў названне стаіцызму ад месца яго прапаведавання; Жана Эрш у кнізе „Філасофскае здумленне": „На думку стоікаў, усё бытнае цалкам прасякнута *душой свету* альбо боскім розумам, які прысутны ва ўсёй прыродзе і рэгулюе яе. Сам сусвет разглядаецца стоікамі як пасіўнае цела, падлеглае дзейнасці гэтага боскага розуму ці душы свету. Тут мы сутыкаемся з чымсьці накшталт сусветнай душы, з якой не перастае лучыцца душа чалавека. Чалавечая душа насычае сабой усё цела. Гэтак жа і боская душа пранікае ва ўсе куткі сусвету. Усё ёсць богам, і Бог ёсць усім: гэта — *пантэізм*. Стаічная школа лічыла, што Бог не існуе па-за рэчаіснасцю, а ў самой рэчаіснасці няма нічога, што не належала Богу. Бог і свет утвараюць адно цэлае. Сутнасць рэчаў, парадак, што лучыць іх у адно цэлае, і ёсць боскаю прыродай. Менавіта таму і рушыць усім бытным не выпадковасць, а Бог. Цэнтральным месцам філасофіі стоікаў ёсць пэўнае захапленне і замілаванне натуральнай ходай падзеяў і лёсам. Для стоікаў лёс і натуральны лад рэчаў супадаюць. Таму лёс і боскае прадвызначэнне тоесныя між сабой. Усё бытнае кіруецца іманентным боскім розумам. Усе асобныя прычыны спараджаюцца агульнай мэтай і імкнуцца да яе дасягнення. (...) Чалавек прыходзіць у здумленне з прычыны існавання зла ў свеце. Яго ўражвае сама прычына праблемы. Адкуль бярэцца зло, калі ў свеце валадарыць боская душа? Асабліву вастрыню мае гэтая праблема менавіта для філасофіі стоікаў, для якіх боскае і свет утвараюць адно цэлае. Бог ёсць сутнасцю ўсяго бытнага. Адсюль вынікае, што менавіта Бог ёсць прычынай зла. Але як гэта магчыма? Зло і дабро з'яўляюцца суадноснымі паняткамі. Без зла не мела б ніякага сэнсу і дабро. Атрымліваецца, што зло выступае неабходным. У адсутнасць зла не было б ані якасцяў, ані вартасцяў, да якіх можна было б імкнуцца. Такім чынам, зло выступае ў якасці неабходнай умовы для існавання дабра. Сапраўды, кажуць стоікі, тое, што мы называем злом, безумоўна і ёсць злом. Але гэта толькі з нашага, заўсёды абмежаванага гледзішча. Аднак у кантэксце ўсяго сусвету такое зло ёсць пэўным дабром. Толькі там выяўляецца дасканаласць і панаванне боскага закону. Толькі калі чалавек робіцца здольным да пераадолення свайго абмежаванага гледзішча, у яго атрымліваецца перамагаць зло. Сустрэўшы ў сваім жыцці зло, чалавеку належыць узвысіцца да боскага закону, у якім зло выступае толькі ў якасці неабходнага элементу быцця. Вышэйшае дабро стоікі бачаць у згодзе чалавека з самім сабой. Тым самым дасягаецца згода з сусветным Розумам і боскім законам. Гэтая згода ёсць адначасова дабром, цнотай і шчасцем. Не можа існаваць іншага шчасця, іншай цноты, іншага дабра, чым гэтая згода. Людзі павінны пакрысе адмовіцца ад усіх іншых вартасцяў, якімі ім можна альбо хочацца валодаць. А таго, хто імкнецца да чагосьці неналежнага яму, стоікі лічылі нявольнікам. Ад грамадзянаў стоікі патрабавалі ўдзелу ў жыцці грамадства, выяўлення палітычнай актыўнасці і адказнасці, выканання ўсіх сваіх абавязкаў і дбання пра парадак у дзяржаве. Патрабаванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі не было для стоікаў адно тэарэтычным пастулатам. Да прыкладу, менавіта стоікам належыць найбольшая роля ў стварэнні рымскага права, якое на працягу шматлікіх стагоддзяў заставалася самым уплывовым у Еўропе і захавала сваю значнасць аж да нашых дзён...". Вось такія маштабныя вынікі для грамадскіх навукі і жыцця дало мысленне чалавека, жыўшага з 352 да 255 года да Хрыста, якога сціпленькая фігура стаіць на ларнакскай Еўрапейскай плошчы.


Від Ларнакі з мора


Помнік Зянону на Еўрапейскай плошчы Ларнакі


Каталіцкі касцёл у Ларнацы

Я прашу прабачэння за падаванне ісцін, за якімі неабавязкова наведваць Кіпр; але карціць прыпомніць іх. Да гэтага хачу дадаць яшчэ абзац, за якім таксама не трэба падавацца ў далёкае замежжа, а якога ўсведамленне таксама стварае частку нашага космасу. Мова пра яўрэяў, нямногалікае ў старазапаветны час племя, якое трымаецца тысячагоддзямі без уласнай дзяржавы, расцярушанае па цэлым свеце. Яны, гэтак жа як грэкі і рымляне, унеслі важны ўклад у нашу культуру, асабліва ў духоўны космас.

Макс Даймант у кнізе „Яўрэі, Бог і Гісторыя" красамоўна сцвярджае, што Захад жыве ў збудаваным яўрэямі доме, у якім грэчаская мэбля. І далей: „Уклад яўрэяў у найбольшыя дасягненні чалавецтва ў галіне рэлігіі, навукі, літаратуры, музыкі, эканоміі і філасофіі ўражвае сваімі маштабамі. Перыяд росквіту антычнай Грэцыі доўжыўся пяць стагоддзяў, а пасля грэкі ператварыліся ў народ пастухоў. Яны пазней ніколі не дасягнулі велічы свайго ранейшага развіцця. Зусім інакш маецца справа з яўрэямі. Яны захоўваюць творчую актыўнасць на працягу ўсёй сваёй чатырохтысячагадовай гісторыі. Яны ўнеслі свой уклад у развіццё Усходу і Захаду, хаця Усход і Захад не заўсёды ўсведамляюць значэнне гэтага ўкладу. У ходзе стагоддзяў яўрэі выпрацавалі такія паняцці як малітва, царква, збаўленне душы, агульная адукацыя, дабрадзейнасць. Яны ўвялі іх у свой абыход шмат вякоў да таго, калі іншыя народы сталі здольнымі да іх успрыняцця. Яны жылі сярод вавілонцаў, жылі ў акружэнні элінскага свету, прысутнічалі пры канчыне Рымскай імперыі, выдатнічалі ў ісламскай цывілізацыі, зноў выйшлі на сцэну са змрочнага Сярэднявечча і дасягнулі інтэлектуальных вяршынь у новыя часы. Вялікія язычніцкія народы, жывучыя адначасна з яўрэямі, паспелі з таго часу схэзнуць з гісторыі. Вавілонцы, персы, фінікійцы, хеты, філісцімляне — усе гэтыя народы, якія калісь дасціглі славы і магутнасці, прапалі з паверхні зямлі...".

Паколькі Кіпр недалёка Ханаана, то і яўрэі з'явіліся на выспе даволі рана ў старажытнасці, верагодна ў 3-2 стагоддзях да н.э., калі Кіпр апынуўся пад егіпецкім панаваннем. У час рымскага панавання, пры імператары Траяне, яўрэі Леванта, у тым ліку і Кіпра, узнялі ў 115 годзе паўстанне. Вікіпедыя: „Nie jest znany żaden powód ani żadne szczególne zdarzenie mogące stać się przyczyną wybuchu powstania na tak szeroką skalę. Gdy w 115 rzymska armia dowodzona przez Trajana walczyła z państwem Partów, żydowska diaspora rozpoczęła rewoltę w Cyrenajce, która rozszerzyła się na Egipt i Cypr. W Cyrenie rebelianci dowodzeni przez Lukuasa zniszczyli wiele świątyń, włączając poświęcone Hekate, Jowiszowi, Apollowi, Artemidzie i Izydzie, jak również cywilne budowle symbolizujące Rzym: Cezareum, bazylikę oraz termy. Grecka i rzymska ludność została wymordowana. Następnie Lukuas ruszył w stronę Aleksandrii, wszedł do miasta opuszczonego przez rzymskie oddziały wojskowe i podłożył ogień pod miasto. Pogańskie świątynie i grobowiec Pompejusza zostały zniszczone. Trajan wysłał nowe oddziały pod dowództwem praefectus praetorio Marcjusza Turbona, ale Egipt i Cyrenajka zostały spacyfikowane dopiero jesienią 117 roku. Sytuacja została opanowana także na Cyprze, gdzie Żydzi pod dowództwem Artemiona przejęli władzę nad wyspą. Armia rzymska odbiła stolicę Salaminę i Żydom zabroniono lądować na tej wyspie. Według Kasjusza Diona żydowscy powstańcy zmasakrowali 240 000 Greków na Cyprze, 220 000 Greków w Cyrenie i wielką ich liczbę w Egipcie". У выніку гэтага бунту яўрэям было забаронена сяліцца на выспе. З ходам часу яны ўсё ж туды пранікалі і ў час венецыянскага панавання жыло іх там некалькі тысяч, а пасля іх лік зноў пайшоў на спад. Мяркуецца, што зараз на Кіпры пражывае некалькі дзясяткаў яўрэяў.

На плане Ларнакі намечана сінагога і рашыў я пабачыць яе, думаўшы, што яна такая ж, як у Орлі ці Мілейчычах. Што абведзена яна агароджай з высокіх панэляў, мяне не здзівіла, бо падумаў, што там вядзецца нейкая разбудова. Але пры ўваходзе стаяла вартаўнічая будка. Спытаў я ў вахцёра, ці магу зрабіць здымак сінагогі, але ён не дазволіў, тлумачачы, што гэта дзеля бяспекі... Сінагога ў Ларнацы была збудавана ў 2005 годзе і яна адзіная на Кіпры. Да таго часу Кіпр быў адзінай еўрасаюзнай дзяржавай, у якой не было сінагогі. Пра храм Вікіпедыя згадвае на сямі мовах і да ніводнага артыкула няма здымка ларнакскай сінагогі...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 24